
Бард свабоды ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Новы зборнік Надзеі ➔8-9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 14 (3282) Год LXIV Беласток, 7 красавіка 2019 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**Вучні Бельскага белліцэя і Гайнаўскіх белліцэя і белгімназіі пад бел-чырвона-белымі сцягамі 25 сакавіка святкавалі Дзень Незалежнасці. Белліцэісты і белгімназісты з абедзвюх школ адзначалі гэты дзень ва ўзнёслым патрыятычным настроі. Падчас святкаванняў узгадваліся падзеі 1918 года, калі была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, беларусы Беласточчыны, якія стваралі БНР і змагаліся за яе захаванне. Успаміналася таксама пасляваенная гісторыя беларусаў Бельшчыны і Гайнаўшчыны.**



■ Гайнаўскім вучням асабліва запамяталася патрыятычная песня «Сцяг»

# Пад бел-чырвона-белымі сцягамі

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

### У БЕЛЬСКУ-ПАДЛЯШСКІМ

У Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім на школьным будынку і ў спартыўнай зале ад раніцы лунаЛі бел-чырвона-белыя сцягі, а ў калідорах былі расклеены плакаты з нацыянальнымі сімваламі, прымеркаваныя да Дня Незалежнасці. Акт 25 Сакавіка адзначаўся толькі часткова паводле раней выпрацаванай у школе схемы і вучні другіх класаў арганізавалі першакласнікам «Беларускі турнір». Белліцэісты другіх і трэціх класаў разам з настаўнікамі выслухалі перформерскія чытанні «Попел і памяць. 1946» у выкананні Іааннны Стэльмашук і Тамаша Таранты. Былі яны падрыхтаваны, між іншым, на падставе ўспамінаў жыхароў пацыфікаваных вёсак, друкаваных у 1990-х гадах у «Ніве». Пастаноўка пра злачынствы атрада Рамуальда Райса «Бурага» зацікавіла маладую публіку Бельшчыны.

— Мы хочам паказаць, што Дзень Незалежнасці, гэта таксама наша свята, якое можам адзначаць з годнасцю. Саступчылі мы інфармацыю аб стварэнні Беларускай Народнай Рэспублікі падчас турніру з выказваннямі сведак трагічных пасляваенных здарэнняў, у час якіх загінулі жыхары беларускіх вёсак Гайнаўшчыны і Бельшчыны. Гэтыя падзеі, якія выклікаюць многа эмоцый, па-акцёрску запрэзентавалі Іаанна Стэльмашук і Тамаш Таранта, — сказжа пазней дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк.

Дырэктар прывітаў вучняў першых і другіх класаў сабраных у спартыўнай зале, дзе ўдала прайшоў «Беларускі турнір». Павіншаваў ён сабраных з Днём Незалежнасці і пажадаў вучням удалай гульні ў час турніру. Белліцэісты трох першых класаў дастойна праспявалі гімн школы «Люблю наш край, старонку гэту», запрэзентавалі плакаты «Беларусь у маіх вачах» і запрэзентавалі свае класы. Падчас турніру над галовамі белліцэістаў лунаў бел-чырвона-белы сцяг. Вучні з Бельшчыны выканалі цікавыя сцэнічныя афармленні да беларускіх казак і займальна іх запрэзентавалі. Белліцэісты падчас выступленняў на беларускай мове стараліся зацікавіць сяброў і настаўнікаў сваімі акцёрскімі здольнасцямі і іх развесяліць.

— Святкаванне Дня Незалежнасці ў нашай школе і ўдзел у «Беларускім турніры» дапамагае захаваць памяць аб нашай складанай гісторыі. Ёсць тут добрая нагода супольна правесці час з ухілам на беларускую культуру і нашы традыцыі, а таксама спрычыніцца да фармавання беларускай нацыянальнай свядомасці вучняў. Гэта асабліва важнае нам, беларусам, якія жывуць па-за межамі Рэспублікі Беларусь, — сказаў Максім Фіёнік, які раней пазнаёміў вучняў з падзеямі звыш стагадовай даўнасці, калі стваралася БНР і разам з вучаніцай Магдай Мазурук удала вёў турнір.

Вучні першых класаў сказалі, што падрыхтоўка да турнірных задач не была складанай, але трэба было адвесці многа часу, каб падрыхтаваць інтэрпрэтацыю казкі, прэзентацыю свайго класа і выканаць плакат. Калі камісія падвяла вынікі турніру аказалася, што першае месца заняў клас І «цд», на другім месцы апынуўся клас І «б», а трэцяе месца заняў клас І «а».

— Я — беларуска і сёння маё свята. Мне важна ведаць нашу гісторыю, з якой мы сёння знаёміліся, — заявіла белліцэістка Інеса Гапанюк.

— Мы запрэзентавалі тры беларускія казкі — «Зайздросны дзядуля», «Прагны багацей» і «Як курка пеўніка ратавала». Гэта звычайныя казкі, не спалучаныя непасрэдна са святкаваннем Дня Незалежнасці. Мы хацелі займальна іх паказаць, каб зацікавіць публіку, — сказалі першакласнікі, якія выступалі з казкамі.

— Цікава выступалі нашы малодшыя сябры. Арыгінальна былі падрыхтаваны прэзентацыі паасобных класаў і інтэрпрэтацыі беларускіх казак. Усе вучні нашай школы, будучы першакласнікамі, вучацца спяваць гімн нашай школы і менавіта падчас «Беларускіх турніраў» яго прэзентуюць. Беларускія загадкі не былі складанымі і вучні патрапілі адказаць на іх. Плакаты, на якіх запрэзентаваны былі беларускія нацыянальныя сімвалы, «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг, прырода тэрыторый, дзе жывуць беларусы і беларусы ў нацыянальнай вопратцы спадабаліся камісіі, — гаварылі другакласнікі Інэса Гапанюк, Максім Фіёнік і Гося Мацкевіч.

Каля спартыўнай залы, у якой праходзіў турнір, прэзентавалася Літаратурна-дакументальная выстава «Мы ёсць народам», прысвечаная абвяшчэнню Беларускай Народнай Рэспублікі.

— Гэтая багатая гістарычная выстава была падрыхтавана Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры. Раней прэзентавалася яна ў Мінску, а трапіла ў нашу школу дзякуючы Культурнаму цэнтру Беларусі ў Польшчы, — удакладніў дырэктар белліцэя Андрэй Сцепанюк.

### У ГАЙНАЎЦЫ

У Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня» знаходзіцца над уваходам у актавую залу. У дзень святкавання беларускіх нацыянальных сімвалаў было ў Гайнаўскім белліцэі больш. Гасцямі мерапрыемства былі старшыня Беларускага гістарычнага таварыства прафесар Алег Латышонак і стваральнік інтэрнэт-бібліятэкі «Kamunikat.org» Яраслаў Іванюк. Святкаванне пачалося з выслухання на зважай беларускага гімна «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Прафесар Алег Латышонак выступіў з дакладам пра Беларускую Народную Рэспубліку. Быў таксама запрэзентаваны фрагмент фільма Міколы Ваўранюка, прысвечаны Дню Незалежнасці. Сабраныя асабліва цікавіліся дзеячамі з Беласточчыны, якія змагаліся за стварэнне БНР і захаванне незалежнай беларускай дзяржавы.

— На чале беларускага ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі стаяў Язэп Варонка, які нарадзіўся ў Кузніцы-Беластоцкай. Стаць у 27 гадоў прэм'ерам урада БНР патрабавала ад Язэпа Варонкі вялікай адвагі. За вольную беларускую дзяржаву змагаліся нашы хлопцы з Гайнаўшчыны: Яўген Хлябцэвіч з Кленік, Іван Красоўскі з Дубіч-Царкоўных і Усевалад Ігнатоўскі родам з Такароў, які вырас у Дубінах. У Грабаўцу настаўніца Вера Матэйчук, родам з Супрасля, арганізавала беларускую школу, якая была першай беларускай школай у гэтым наваколлі. Яна была таксама правадыром беларускага партызанскага руху на нашай тэрыторыі, які змагаўся за БНР пад кіраўніцтвам Германа Шыманюка «Скамароха», родам з Грабаўца і Івана Грыцюка «Чорта», які, мяркуем, што быў родам з-пад Нараўкі. Апошнюю спробу стварэння БНР прыняў генерал Станіслаў Булак-Балаховіч. Яго армія заняла Мазыр на Палессі. Там Станіслаў Булак-Балаховіч абвясціў Беларускую Народную Рэспубліку. За БНР змагаліся таксама слуцкія паўстанцы пад канец 1920 года. Для нас гонар, што апошнім з поля бою ў канцы 1920 года сышоў беластоцкі полк, якім камандаваў маёр Мікалай Дзямідаў, родам з Гарадка. Змагаліся ў ім дабравольцы з прасторы ад Саколкі да Бельска. Усюды беларусаў ядная ідэя незалежнай беларускай дзяржавы, якую абвясцілі 25 сакавіка. З таго часу легітымнай уладай БНР лічыцца Рада Беларускай Народнай Рэспублікі ў эміграцыі, якой старшынёй цяпер з'яўляецца Івонка Сурвіла. Улады

працяг ☞10





# Сэрцам ці розумам?

Апошні тыдзень беларуская грамадскасць пасля супярэчлівага святкавання Дня Волі пераключылася на абмеркаванне выбараў прэзідэнта суседняй Украіны. Жарсці там кіпяць нежартоўныя, у першым туры на кожны густ было прадстаўлена ажно 39 кандыдатаў на галоўнае крэсла дзяржавы. Праўда, сярод гэтай процьмы прэтэндэнтаў было нямала так званых „тэхнічных” кандыдатаў, гэта значыць тых, хто ў розны спосаб „граў на руку” іншых.

Выбар сапраўды быў няпросты, і як звычайна адны галасавалі развазлівасцю і розумам, іншыя — сэрцам на эмоцыях. Відавочна, што вельмі высокім быў працэнт так званага пратэстнага галасавання. На момант, калі пішуцца гэтыя радкі, дакладнага падліку галасоў яшчэ няма, але па ўсіх раскладах у другі тур выбараў выйшлі шоўмен Уладзімір Зяленскі і цяперашні прэзідэнт Украіны Пятро Парашэнка. Поспех коміка Зяленскага ўжо можна лічыць ашаламляльным. Ён упэўнена перамог у першым туры, набраўшы каля 30 адсоткаў галасоў. Зяленскі сапраўды выскачыў на палітычную сцэну як чорцік са скрыначкі і адразу пераможна ўсе карты цяжкавагавікам украінскай палітыкі. Дыяпазон ацэнак гэтага прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта вельмі шырокі. Ад таго, што малады і энергічны навасьпечаны палітык возьмецца змагацца з карупцыяй і прывядзе Украіну да ўсталявання парламенцкай рэспублікі да таго, што гэта чыста расейская крэатура, асоба, якая ў разе перамогі дапусціць хаос і развал дзяржавы. Адзін з беларускіх палітыкаў параўнаў Зяленскага нават з Лукашэнкам узору 1994 года. Па вялікім рахунку, выбіраючы Зяленскага, украінцы выбіраюць гэткага „ката ў мяху” — і яго палітычныя і іншыя дзеянні ў разе абрання непрадказальныя.

Нервова і раздражнёна на поспех Зяленскага зрэагаваў і Пятро Парашэнка, які па выніках першага туру набірае каля 17% і ўсё ж апярэджвае трэцюю фаварытку выбарчай гонкі — Юлію Цімашэнку. Пятро Парашэнка назваў Зяленскага марыянеткай алігарха Каламайскага і рытарычна запытаўся ў народа — як ён уяўляе палітычны дыялог Зяленскага на чале Украіны з Пуціным.

Прэзідэнцкі тэрмін Пятра Парашэнкі выдаўся дастаткова супярэчлівым. З аднаго боку знешнепалітычныя дыпламатычныя поспехі. Так, удалося атрымаць дыпламатычную і ваенную падтрымку такіх дзяржаў як Канада, ЗША, дамагчыся бязвізавага рэжыму з Еўрасаюзам, здабыць томас на аўтакефалію Праваслаўнай царквы. З іншага боку, многія выбарцы і назіральнікі звонку па-ранейшаму атаясамляюць цяперашняга кіраўніка дзяржавы з яшчэ раней укаранёнай карупцыяй, а значыць і з сацыяльнай несправядлівасцю.

Ці можна было зрабіць больш Парашэнку ў складаных умовах пераходнага перыяду, у час, калі гібрыдная вайна Масквы супраць Украіны працягваецца, сказаць цяжка. У палітычным пасіве Парашэнкі — працяг яго бізнесу на расейскіх прасторах, канфлікт з Міхаілам Саакашвілі, які ўзяўся выкараняць карупцыю і кумаўство, некаторыя іншыя пытанні ўнутранага дзяржаўнага развіцця. Думаю, што ў кожным разе даваць гістарычныя ацэнкі яго прэзідэнцтву пакуль рана. Тым больш, што шанцы выйграць выбары і пайсці на другую кадэнцыю ў яго застаюцца. Парашэнка больш прадказальны для Украіны і свету, няма сумневу, што не здрадзіць ён і нацыянальным каштоўнасцям, менавіта таму найперш за яго галасавалі заходнеўкраінскія вобласці — Цярнопальская, Львоўская, Івана-Франкіўская.

Выбары ж выразна паказалі запатрабаванасць на новыя асобы і твары. Відаць, гэта не толькі ўкраінская тэндэнцыя. Так прэзідэнтам Славакіі днямі была абраная маладая жанчына — адвакатка Зузана Чапутава. Праўда, у Славакіі, маленькай еўрапейскай краіне, сітуацыя зусім іншая. Там дэмакратыя ўжо ўсталялася, і лёс цэлай нацыі амаль не залежыць ад канкрэтных прэзідэнцкіх выбараў. Пройдзе чатыры гады, і калі Чапутава не апраўдае даверу сваіх выбарцаў, тыя абяруць сабе іншага прэзідэнта. Тое сама ў Польшчы, Чэхіі, Літве, іншых краінах. Легітымная эвалюцыйная змяняльнасць улады — вялікая рэч і дасягненне дэмакратыі. Ва Украіне пакуль не так, там усё пакуль хісткае, нетрывала і трывожна. І шмат што будзе залежаць ад таго, як выбарцы прагаласуюць 21 красавіка ў другім туры.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Благі час



Цяперашні час нядобры. Ён наскрозь благі. Ніякая, нават самая высакародная ўлада не ў стане ператварыць яго ў добры без агульнай, салідарнай дапамогі ўсіх. Толькі што кожны сам за сябе «рэпку цягне», таксама ўлада тупаючая вакол сваіх уласных спраў. Паспрабую растлумачыць гістарычнай аналогіяй. У эпосе станаўлення дзяржаўнасці сярод славянскіх плямёнаў, калі княжая адміністрацыя была яшчэ неэфектыўнай, а час ані вельмі кепскі, таму што незаклізаны з усім правадаўцам-уладаром, ні асабліва добры, таму што яшчэ без ніякай павагі да яго пастаноўленага закону, стала звычаем у грамадзе супольнасцевая салідарнасць пад назвай «павіннасцю галавы», «крыку» і «следу». Гэта азначала, адпаведна, абавязак указваць, напрыклад, віноўніка забойства або яго спробы, супольна аказаць дапамогу ахвяры і патрабаваць паслядоўнага пераследу злачынца. З часам, калі ўлада ператварыла той звычай у грамадскі абавязак, невыкананне гэтых наказаў прывяло да калектыўнай адказнасці. Самы стары вядомы звод польскага заканадаўства апісвае практыку суседскай самаабароны ў той час: «Калі [...] сяляне не могуць злавіць таго, хто выклікаў страту, тады гоняць яго з крыкам да наступнай вёскі [...]. Такім жа чынам другая вёска павінна яго гнаць далей [...]. Калі якаясь вёска, да якой крык [...] дойдзе, не будзе яго ганіць, яны павінны заплаціць вергельд (цяжкі грашовы штраф). Такім чынам праследуюць у выпадку забойства, рабавання, крадзяжу (або іншага зла) ад поля да поля, ад вёскі да вёскі». Дадамо: праследавалася! Нястомна. Па-чалавечы. Заядла. Але ўжо не праследуюць. Гэты механізм працаваў эфектыўна, але, як бы мы сказалі сёння ў прастамоўі, да часу! Да таго часу, калі гэтую функцыю стала прымаць усё больш і больш фармалізаваная ўлада. Гэта было якраз у той момант, калі лінія паміж тым, што было добрае ў той час, а тым, што было такое злое, пачала вырысоўвацца ўсё больш і больш бачнай лініяй. У меры фармалізацыі першапачаткова спантанна ўстаноўленага звычаю, у меру фарміравання яго для зручнасці ўлады, а не чалавечых чаканняў, супольнасцевая зацятасць супраць зла аслабла. Гэтыя прэрагатывы абшчыны брала на сябе ўлада. Яна ўзяла на сябе, але не як чакалася, але толькі ў спосаб для сябе магчымы — павелічэнне вергельду. Яго строгасць аслабіла ўдзел супольнасці ў барацьбе са злом. Акрамя таго, чым больш улада была рэстрыкцыйнай у адносінах да растучай абыякавасці да зла, тым больш было яно рацыяналізаванае ці нават талераванае супольнасцю. У рэшце рэшт, зацвердзіўся па няпісанай дамове прынцып, што абшчына адмаўляецца ад улады ў частцы свайго суверэнітэту, падпарадкоўваючы яго закону накладзенаму ўладай, у сваю чаргу, улада нясе адказнасць толькі за пераслед зла. Такім чынам, усталявала прынцып падзелу абшчыны ад улады, якая прадстаўляе яе інтарэсы. Прасцей кажучы, ад моманту, калі ўлада прыняла больш поўны кантроль над злом, яе інтарэсы сталі несумяшчальнымі з інтарэсамі грамадства. І так ёсць да сёння. Улада ўсё менш і менш атаясамліваецца з супольнасцю, магчыма, грамадства ўсё менш і менш атаясамліваецца з уладай. Варта памятаць, што зло ў залежнасці ад перакананняў, светапогляду ці ідэалогіі, больш-менш здаровага розуму, можна вызначыць па-рознаму. І так, калі ў ролі вызначальнага суб'екта ёсць толькі ўлада, неабавязкова мудрая або светлая, тады дабрабыт абшчыны знаходзіцца пад пагрозай, і яна сутыкаецца з небяспекай поўнага прыгнёту ўлады. Існуе яшчэ адзін, даволі рызыкоўны аспект, які тычыцца зла. Права на вызначэнне яго, а затым пераняцце яго пад свой кантроль над ім узурпуюць цэрквы ўсіх рэлігій. Такім чынам іх саюз з уладай быў і застаецца відавочным. Не без падстаў Каталіцкая царква ўзмацняла веру сярод людзей, што ўлада канстытуіруецца боскім провідам. Каралёў называлі божымі памазаннікамі. Таксама сёння, хоць і не наўпрост, а вакольным шляхам тонкіх намёкаў, кажуць пра боскае зацвярджэнне ўлады. Але ж не кожнай улады, толькі ўлады, якая найбольш імкнецца да саюзу з Касцёлам. Такі саюз, як паказвае вопыт, не ідзе к дабру самай супольнасці — ці назавем яе нацыянальнай, ці грамадзянскай.

А можа так, як у Магдэбургскім праве! «[Людзі ўлады] маюць быць мудрыя, добрыя, у гадах [...] Бога баяўшыеся, справядлівыя і праўдалюбівыя [...] да прагнасці гідлівыя, падарункаў не прымаючыя [...], і не п'яніцы [...] не распуснікі». А калі не — гнаць іх ад поля да поля!

**Міраслаў ГРЫКА**

Сваімі вачыма

# Годна і свабодна

Святкаванні сто першай гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ўжо за намі. Сышлі арганізацыйныя эмоцыі і перажыванні ці ўсё пройдзе так як трэба. Па-божаму, як звычайна паўтараюць мае бацькі, калі бяруцца за важную справу. Кожнаму ацэньваць па-свойму нашы беластоцкія святкаванні, але я асабіста лічу іх удалымі. Было годна і свабодна. Менавіта святкаванні Дня Волі ўводзяць мяне асабіста ў стан чакання, які можна параўнаць з передвелікодным перыядам. Неверагодныя рэфлексіі над нашай гісторыяй той вялікай і той малой, сямейнай, спадарожнічаюць інтэнсіўна гэтымі днямі. Хочацца абгаварыць і перагаварыць самыя важныя пытанні нашай штодзённасці і будучыні, знайсці час на паглыбленую рэфлексію над беларускім лёсам у духоўнай прасторы. Вельмі цешуся і дзякую святарам са Свята-Іаанна-Багаслоўскай царквы ў Беластоку за тое, што другі год запар так урачыста маліліся за беларускі народ. Настаяцель Марк Ваўранюк, айцы Андрэй Кузьма, Міхал Чыквін і Адам Якуць ды дыякан Пётр Макаль разам з хорам ад душы і сэрца даказваюць, што беларуская багаслужба, гэта той дар Божы, які павінен быць заўсёды са сваім народам. А таксама пастырскія словы айца Андрэя пра нашу беларускую мову, гісторыю і культуру замацоўвалі сэнс і давалі натуральную падтрымку для ўсіх нас у быцці беларусамі. Таму нічога дзіўнага, што ў час багаслужбы і малебна дрыжыкі не раз праходзілі мне па скуры. А ў некаторых момантах вочы самі станавіліся вільготнымі. Потым быў супольны здымак і радасна-святочная сустрэча ў прыхадской святліцы за пірожным і гарбатай. Такія хвіліны падкрэсліваюць адчуванне беларускага адзінства ў так важную для нас гістарычную дату. Спадзяюся і веру, што і ў наступныя гады будзем там разам, не толькі пры ўгодках Дня Волі.

Так як узгадаў я вышэй пра адчуванне сябе быццам у перадвелікодны настрой, то ўжо сама нядзелька па сваёй арганізаванасці ў выхадзе ў царкву і далейшых святкаванні мае свой сталы рытуал. Падняўшыся з раніцы, вітаю ўсіх беларусаў вечным «Жыве Беларусь!». Няспешна ем снядданак і за кубкам гарбаты так хочацца, каб гэтае свята адзначалася па ўсёй незалежнай і дэмакратычнай Беларусі. Каб радавацца з усімі, а не думаць і перажываць ці будуць ізноў чарговыя затрыманні, ці крываныя пабоі з боку сілавікоў, як не раз такое бывала. Ці дадуць згоду на святкаванні, ці не? Чаму ўлады не хочуць свята дзеля ўзмацнення еднасці і згоды свайго народа, якое выбудоўвае беларускую, палітычную адметнасць на геапалітычнай карце свету...

У гэтым годзе я вельмі радаваўся, калі глядзеў святочны канцэрт, які прайшоў у суботу 23 сакавіка ў Гародні. Раней урачыстая багаслужба ў старажытнай Свята-Барыса-Глебскай царкве, якая на ўзбярэжжы Нёмана стагоддзямі была з беларускім народам на добрае і благое. Жывая трансляцыя паказала, што людзі ведаюць добра, якое гэта свята і чаму Гародня гэта другая сталіца БНР, куды ў 1919 годзе пераехаў урад Беларускай Народнай Рэспублікі. Калі б было нармальна, то мясцовыя ўлады ў сваіх турыстычных буклетах раілі б айчынным і замежным турыстам вандроўку таксама па гістарычных мясцінах стагадовай даўніны. Але ідзі БНР — вечныя і пераможныя! Таму раней ці пазней усё гэта збудзецца і беларуская Гародня пакажа і незалежніцкае аблічча. Калі ад трох да пяці тысяч людзей радавалася на канцэрце сваёй гісторыі, то таксама можна быць упэўненым, што калі за год улады дазволяць ізноў правесці такія святкаванні, то лічба ўдзельнікаў напэўна ўзрасце. Паглядзеўшы фотарэпартаж з гродзенскіх святкаванняў, з лепшым настроем чакалася правесці і нашы беластоцкія мерапрыемствы.

Потым спакойнае прасаванне кашулі, у фоне гучыць музыка на Радыё Рацыя, далей няспешнае паліраванне абутку. Урэшце пінжак і дарога да свайго і сваіх. У такія хвіліны адчуваеш сябе свабодным і годным беларусам, які цягам бліжэйшых гадзін праз ушанаванне і прадкаў будзе адчуваць сны аб свабодзе цяпер і зараз. А быццё разам з маладзейшымі і зусім маладымі дазваляе верыць, што не сказалі мы яшчэ апошняга слова.

**Яўген ВАПА**

# Бард Незалежнасці

## Размова з **Андрэем Мельнікавым** — беларускім бардам, паэтам, літаратуразнаўцам і краязнаўцам.

**Міра Лукша:** — Андрэй, сустрэліся мы на адзначэнні 101-й гадавіны БНР — 24 сакавіка ў Беластоку, дзе Ты даў багаты і хвалюючы канцэрт. Вядомы мы ўжо з XX стагоддзя. Ты з пакалення 1965-1966 гадоў вельмі значнага ў літаратуры і музыцы. А Тваім творчым жыццяпісам можна было абдараваць некалькі творцаў, як і Тваіх аднагодкаў — «майстроў на ўсе рукі». «Пакаленне 65-66» у Польшчы таксама прагучала моцна ў свой час, але многія з іх ужо паспакайнелі. А Ты шмат выступаеш па Беларусі, у нас таксама, пішаш, сустракаешся са слухачамі, чытачамі. **Ты выканаўца аўтарскай песні пад гітару, літаратар, заснавальнік фэстаў беларускай аўтарскай песні „Аршанская бітва", «Талькаўскі фестываль», аўтар больш за два дзясяткі альбомаў на тэму нацыянальнага адраджэння і жыцця ў постсавецкіх рэаліях.** Хапае Табе на ўсё сілы? Ты пераможца фестываляў «Залатая горка» (1994), «Бардаўская восень» (1996), 30-га гіт-параду радыё «Свабода» (1994), Лаўрэат прэміі імя Вацлава Ластоўскага (2017). Немагчыма ў найноўшай гісторыі Беларусі сярод постацей увявіць беларускае адраджэнне канца 80-х пачатку 90-х гадоў без Андрэя Мельнікава.

**Андрэй Мельнікаў:** — Памерлі мае аднагодкі, творцы ў розным плане — Сяржук Вітушка, Змітро Сідаровіч, Міхал Анемпадыстаў, Слава Ахроменка... А мае равеснікі, майстры таксама ў розных жанрах — Лявон Вольскі ці Людміла Рублеўская яшчэ больш актыўныя ад мяне і выступаюць часцей... Абы сілы былі... Нарадзіўся я ў горадзе Гомелі. У Мінску я працую ў філіяле Музея гісторыі беларускай літаратуры — у музеі Максіма Багдановіча. Музей нярэдка ладзіць імпрэзы, у тым ліку музычныя. На экскурсіях я, бывае, спяваю, песні на вершы Багдановіча, Міцкевіча... На Віцебшчыне, у Оршы і клубе „Торвальд" у Віцебску выступаю. У Оршы Генадзь Шэпелеў — Добры Дух Крапівенскага Поля часам збірае сяброўскую кампанію, у тым ліку з маім удзелам. У Віцебску я ў студзені 2018 года апынуўся на „Торвальдзе" і атрымалася зладзіць сімпатычны канцэрт. І на Гарадзеншчыне ў сяброўскіх для мяне асяродках выступаю, на Гомельшчыне... І на Падляшшы.

**М.Л.: — Сваю беларускую творчую дзейнасць пачаў Ты ў другой палове 1980-х з песень «Песьня зь мінуўшчыны», «Казка», якія адразу сталі вядомымі ў беларускіх нацыянальна арыентаваных колах. Альбом «За сьцягі, за волю!» быў запісаны ў 1989 годзе самапалам, але шырокая папулярнасць спрыяла таму, што з аднаўленнем музычна-выдавецкай дзейнасці ў краіне альбом быў перавыдадзены. Амаль усе песні першага альбома былі прысвечаны тэме нацыянальнага адраджэння і адразу знайшлі свайго слухача. У 1991 годзе выйшаў альбом «Успамін». Адзін з нешматлікіх альбомаў, у якім пераважае лірычная тэма. У альбом увайшло больш за 20 песень. Праз некалькі гадоў альбом быў перавыдадзены. У 1991 годзе выйшаў у масавым накладзе альбом «Да апошняга камісара». У песнях альбома, як і ў ранейшых, пераважае гістарычная тэма, вялікая заклапочанасць лёсам нацыі. Цалкам з эміграцкай беларускай паэзіі склаўся альбом «Песні выгнання» (1994). Песні з альбома адкрылі для беларусаў многіх таленавітых паэтаў эміграцыі. 13 кастрычніка 1996 года выйшаў альбом «Гэта МЫ». Песні альбома — адлюстраванне падзей першых гадоў незалежнасці Беларусі. Песня «Гэта Мы» з аднайменнага альбома стала гімнам патрыятычнай моладзі тых часоў. Праз некалькі гадоў песня выйшла ў рокавай аранжыроўцы ў выкананні гурта „Новае Неба" з Касяй Камоцкай. У канцы 1990-х гадоў песні з альбома можна было пачуць амаль на кожнай беларускай вечарыне. У 2007 годзе альбом быў перавыдадзены і таксама даволі хутка раскупleны. Можна сказаць, што мы ўсе кармілі свой беларускі дух Тваімі песнямі, таксама тут, у Польшчы.** У Польшчы свет пабачылі твае альбомы „Шлях", „Пад знакам Арла і Пагоні", „Як з-за выспы на фарвацер". Чаму менавіта ў Польшчы яны з'явіліся?



**А.М.:** — Алег Латышонак яшчэ ў 1990-я гады казаў мне, што мае песні больш адпавядаюць польскай ментальнасці. Але пасля 2012 года я ў Польшчы не быў. Улетку 2012 года ў Беластоку я апынуўся ў беларуска-школьніцкім сутарэнні. Аліна і Мікола Ваўранюкі тады мяне прымалі з нагоды выхаду фільма „Пустазелле", у якім я — самы галоўны Пустазелец.

**М.Л.:** — Асноўныя тэмы Тваіх песень — Бог, Радзіма, каханне, патрыятызм. **Ты першым сярод музыкаў звярнуўся да постаці Станіслава Булак-Балаховіча і падзей Слуцкага збройнага чыну. У Тваёй творчай скарбонцы больш двух дзясяткаў альбомаў на тэму нацыянальнага адраджэння. Твае песні сталі класікай беларускай бардаўскай песні. Ты з'яўляешся заснавальнікам фестываляў аўтарскай песні і паэзіі „Аршанская бітва", „Талькаўскі фестываль" „Гэта мы". Як яны працягваюцца?**

**А.М.:** — Хутчэй я быў іх ініцыятарам. „Аршанская бітва" пасля эфектнага разгону 2007 года ператварылася ў некалькі такіх „хутарскіх" адзначэнняў на лакальных кропках. Але там быў і цікавы вопыт 2014 года, калі мастакі суполкі „Пагоня" ператварылі адну з лакальных кропак (фактычна галоўную, з вялікім крыжам, а з таго года яшчэ і з некалькімі памятнымі па-мастацку аздобленымі камянямі) у месца легальнага тыднёвага пленэру напачатку верасня з даволі масавым адзначэннем у сам дзень свята. Апошнія гады час „Аршанскай бітвы" праводжу нея́к за межамі Аршаншчыны. Але фэст, хай сабе і ў мікрафармаце, жыве. «Талькаўскі фестываль» зліўся ў адну кастрычніцкую імпрэзу і стабільна існуе ў фармаце некалькіх дзясяткаў чалавек з пэўнымі сваімі традыцыямі ў праўдзенні. Калі гаворка пра Станіслава Булак-Балаховіча, у яго вайскоўцаў была такая памятка: кожны, хто вызнае Ісуса Хрыста, ёсць тваім братам. Адна гэтая сентэнцыя пераважае ўсё адмоўнае, што было ў тым войску. Адна гэтая памятка, напісаная Балаховічам, заслугоўвае вечнасці. Ён загінуў, і можна сказаць, што ў пэўным сэнсе ён наступнік Кастуся Каліноўскага, таксама спрэчнай асобы, якой закідаюць, напрыклад, тэрор супраць праваслаўных бацюшак. Але Каліноўскі заплаціў сваёй крывёй, аддаў сваё жыццё ў ахвяру. Тое самае можна сказаць і пра генерала Булак-Балаховіча, які да канца жыцця застаўся змагаром.

**М.Л.: — У Тваім рэпэртуары песні на вершы Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна, Уладзіміра Караткевіча, Тодара Лебяды, Наталлі Арсенневай, Янкі Купалы, Кандрата Крапівы, Рыгора Барадуліна, Леаніда Галубовіча, Леры Сом, Анатоля Сыса, Леаніда Дранько-Майсюка, Лявона Баршчэўскага, Алега Бембеля-Зьныча, Юліюша Славацкага, Адама Міцкевіча, Сакрата Яновіча... Таксама ёсць песні на Твае словы. Вось да 475-годдзя Аршанскае бітвы:**
***Забытыя рыцары тыя, што перамаглі.***
***Краіна зняверыла ў годнасць, магутнасць сваю.***
***Адзіныя чорныя птушкі на гэтай зямлі***
***Адзіныя песні аб вечным адзінстве пяюць...***
***На месцы Аршанскае бітвы — ралля.***
***Забруджана рэчка Крапіўна, дзе вораг тануў.***
***Па берагу рэчкі — дачы мясцовых зямлян.***
***Аб бойні тае з іх ніхто і ніколі не чуў... :***

**Б'еш у іх сэрца мячом... Ты цяпер шмат выступаеш па Беларусі. Як вітае Твая аўдыторыя? Ці яна змянілася ад васьмідзясятых-дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя?**

**А.М.:** — Маю аўдыторыю, мяркую, радуе мая шчырасць. Думаю, што на іх прысутнічае пэўная атмасфера даверу, адкрытасці. Яна цешыць слухача. Тая мая аўдыторыя невялікая, слухачы, якіх я люблю і цаню. Ёсць людзі, якім мае песні дапамагаюць жыць. Кагосьці падтрымлівае «Казка», кагосьці — «Ясна панна», кагосьці — «Гэта мы!». Я спяваю і ўзгадваю добрых людзей, якім мае спевы падабаюцца. Мяне самога гэта вельмі падтрымлівае. Мне больш за ўсё хочацца, каб людзі жылі ў свеце без ілюзій. Калісь у 1990-х, Кастусь Елісееў, які тады, да майго турэмнага зняволення, арганізоўваў мне многія канцэрты і запісы, казаў пра маю аўдыторыю: гэты людзі з розных пластоў грамадства, з вельмі розным жыццёвым вопытам і поглядамі. Адзінае, што змянілася ў параўнанні з тымі часамі ў маіх слухачах — іх узрост. Моладзі вельмі мала, але яна ёсць. І тое, што ёсць — радуе.

**М.Л.: — Ты, пасля пошукаў, стаў праваслаўным хрысціянінам. Твой хросны бацька — Алесь Пушкін. Адзначаеш, што Тваім жыццём кіруе Хрыстос.**

**А.М.:** — Хрысціянства — рэлігія, якая яднае людзей пад кіраўніцтвам Ісуса Хрыста. Тым, хто не верыць, падаецца, што гэта нешта казачнае-міфічнае, але для тых, хто верыць, гэта найлепшае кіраванне. Вельмі добра суадносіць сваю волю з воляй Божай, а не з воляй якога-небудзь начальніка, у якога сёння пахмелле, а заўтра будзе псіхічны заскок. Калі разумееш, у чым воля Божая, то жывеш так, што табе не сорамна за жыццё, бо маеш дачыненне да вечнасці. Сёння дастаткова, каб людзі адкрывалі, што Бог ёсць. Што ёсць абсалютны валадар, а не нейкі адносны. У нас шмат паганцаў — гэта не тое, каб непакоіць, гэта пошукі чалавека, нармальныя пошукі, таму што людзі прыходзяць урэшце да таго, што Бог — гэта больш, чым начальнік. Але рэлігія — небяспечная рэч для ўсялякіх маніпулятараў. Маніпулятары, якія маюць рычагі кіравання, стараюцца скіраваць вернікаў на іншы шлях, звесці ад царквы, каб яны пакланяліся ідалам. Гэта можа быць бутэлька ці салодкае жыццё і гульнявыя аўтаматы, што заўгодна.

**М.Л.: — Ты яшчэ даследчык і літаратар.**

**А.М.:** — Завяршаю шэсць апошніх сваіх кніг у апошняй дзясятцы серыі „100 выдатных дзеячаў беларускай культуры" Анатоля Тараса. Астатнія чатыры піша ён сам. Мае кнігі пра Еўдакіма Раманава, Уладзіміра Жылку, Янку Брыля. Генадзя Кісялёва, Міхася Чарняўскага, Арсеня Ліса. Ды замест выдавецтва „Харвест", якое выдавала нам кніжкі мінімум па 500 асобнікаў кожную, апошнюю дваццатку даводзіцца выдаваць у Рызе і кожную па 40 асобнікаў. 12,5 разоў памяншэння, пра 20 выдатных беларускіх асобаў замест 10 000 тысяч — 800 асобнікаў. Справу спляжылі нашы некаторыя рухавікі беларускай культуры.

**М.Л.: — Ты між іншым аўтар кнігі «Анатоль Сыс — псальмяр дэфармаванай Беларусі» (2017), шэрагу кніг серыі «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры». Друкаваўся ў рэспубліканскай перыёдыцы, калектыўных зборніках... Над чым працуеш цяпер?**

**А.М.:** — Я намераны ўсё ж завяршыць справу з маім даўнім тэкстам „Філасофія беларускага сексу". Шэраг выданняў яго проста адхілілі, хто з тлумачэннямі, хто — без. Урэшце тэкст уладкаваўся ў часопісе „Дзеяслоў"...

**М.Л.: — Дык жадаем здзяйснення планаў, выдання сваёй аўтарскай кнігі і часцейшых сустрэч з намі. А як Ты іграеш на сваіх вуснах, як на трубе? Незабыўны гук...**

**А.М.:** — А гэтага не раскажу, а пакажу :-).

Распытвала
**Міра ЛУКША**

Андрэй МЕЛЬНІКАЎ

## Казка

Як за пушчай, за лесам, за балотам з асакой,
У нядобрым месцы каля віру над ракой
Стаіць хата, ў хаце той мая каханая жыве.
Навакольны люд заве вядзьмаркаю яе.
Дзверы адчыні, каханая мая,
У сэрцы, у глыбіні, каханая мая,
Запалі агні, каханая мая.
Падары мне сына.

Па начох па-над хатай цягнецца дымок,
Беражы сваю маці, сцеражыся, панок.
Не хадзі ты да рэчкі, не хадзі да хаты той,
Бо нячыста сіла аваладае табой.

Дзверы адчыні, каханая мая,
У сэрцы, у глыбіні, каханая мая,
Запалі агні, каханая мая.
Падары мне сына.

Лешакі сакочуць, пачвары равуць,
Па чаратох русалкі арыі пяюць.
Совы разгукаліся, вые ваўкалак,
А я ў хаце з ведзьмай, і зараз я — вядзьмак.

Дзверы адчыні, каханая мая,
У сэрцы, у глыбіні, каханая мая,
Запалі агні, каханая мая...



■ Арцыбіскуп Тадэвуш Война

■ Кс. прафесар Тадэвуш Крагель

# Прытча
## пра добрых самаран

З Евангелля: „Нейкі чалавек ішоў з Ерусаліма ў Ерыхон і нарваўся на разбойнікаў, якія знялі з яго вопратку, паранілі яго і пайшлі, пакінуўшы яго ледзь жывога. З нагоды нейкі святар ішоў тою дарогаю і, убачыўшы яго, прайшоў міма. Гэтак сама і лявіт, быўшы на тым месцы, падышоў, паглядзеў і прайшоў міма. А нейкі самаранін, праязджаючы, знайшоў яго і, убачыўшы яго, пашкадаваў, і падышоўшы, перавязаў яму раны, паліваючы алеем і віном; і, пасадзіўшы яго на свайго асла, прывёз яго ў гасцініцу і паклапаціўся пра яго; а на другі дзень, ад'язджаючы, дастаў два дынары, даў гаспадару гасцініцы і сказаў яму: паклапаціся пра яго; і калі патраціш больш, я, калі вярнуся, аддам табе".

З Вікіпедыі: „Притча о добром самарянине (Притча о добром самаритянине, Притча о милосердном самарянине) — одна из известных притч Иисуса Христа, упоминаемая в Евангелии от Луки. Она рассказывает о милосердии и бескорыстной помощи попавшему в беду человеку со стороны прохожего самарянина — представителя этнической группы, которую евреи не признают единоверцами. По мнению некоторых богословов, данная притча показывает, что примеры человеческой доброты встречаются у всех народов и во всех верах, что Закон и заповеди Божии исполняют люди самых разных национальностей и разных вероисповеданий. Название „Добрый Самарянин" („Добрый Самаритянин") часто использовалось и используется благотворительными организациями и вообще стало нарицательным для обозначения доброго и бескорыстного человека, готового помогать каждому, кто попадет в беду".

22 сакавіка беластоцкі аддзел Інстытута нацыянальнай памяці зладзіў у Выставачным асяродку Беластоцкай архідыяцэзіі выставу пра святароў Віленскай архідыяцэзіі, якія ратавалі жыццё яўрэяў у час нямецкай акупацыі (1941-1944). Выстава была прымеркавана пад устаноўленае ў мінулым годзе на дзень 24 сакавіка Сенатам Рэчы Паспалітай новае дзяржаўнае свята Narodowy Dzień Pamięci Polaków ratujących Żydów pod okupacją niemiecką. Менавіта 24 сакавіка 1944 года ў мясцовасці Маркова каля Ланьцута, што зараз у Падкарпацкім ваяводстве, гітлераўцы расстралялі сям'ю Ульмаў: Вікторыю і Юзафа з шасцёркай іхніх дзяцей; найстарэйшаму з іх было восем гадоў, наймалодшаму паўгода. Да таго ж гітлераўцы забілі васьмёрку яўрэяў, у тым ліку пяцёра дзяцей, якія ў час вайны хаваліся ў гаспадарстве Ульмаў.

Мерапрыемства праходзіла пад ганаровым патранатам беластоцкага арцыбіскупа Тадэвуша Войды, які сказаў, м. інш.

— Гэта тэма асобная, яшчэ не апрацаваная; гэта невялікая дзялянка тае агромнае тэмы, якой з'яўляюцца адносіны польскага і яўрэйскага народаў. Гэтая гісторыя не заўсёды пішацца сумленна, часам здараюцца злоўжыванні, падмены гістарычнай праўды. Таму важна, каб даходзіць да крыніц, да дакументаў, каб паказаць тую праўду, якую складана зафальшаваць, нават несвядома і няхоцячы. Гэта важна для нас, спадкаемцаў Віленскай архідыяцэзіі, з якой паўстала наша Беластоцкая архідыяцэзія. Мы на граніцы, таму ўсё нам блізкае. І добра, што такія тэмы апрацоўваюцца, яны будуць даходзіць да шырэйшай грамадскасці, не толькі ў нас, але і на Віленшчыне, дзеля праўды. Мяркую, што і само стаўленне святароў у абарону пакрыўджаных ці прысуджаных да смерці, не толькі жыдоў, упісваецца вельмі моцна ў евангельскія запаветы. Хрыстос сцвярджаў, што найважнейшым запаветам з'яўляецца любіць кожнага чалавека. Гэта асноўны падмурак, які абавязвае кожнага хрысціяніна, асабліва кожнага святара, які з прыроды свайго прызвання мае даглядаць, каб той запавет любві здзяйсняўся. Гэта фундамент, на якім трэба будаваць хрысціянскае жыццё. Можна нават сцвердзіць, што святары не рабілі нічога незвычайнага, баронячы другіх. Прыгадванне гэтых фактаў паказвае сапраўднае аблічча святароў, якія разумелі Евангелле і намагаліся па гэтым Евангеллі будаваць міжчалавечыя адносіны, у гэтым выпадку да абранага народа, якога прадстаўнікі лічылі, што тут іх другая айчына.

Асноўны даклад на тэму выставы сказаў адзін з яе суствавальнікаў кс. праф. Тадэвуш Крагель; некаторыя вытрымкі з яго інфармацыі:

— Рыхтуючы кнігу „Мартыралогія духавенства Віленскай архідыяцэзіі ў час ІІ сусветнай вайны" і апрацоўваючы біяграмы паасобных святароў, я знайшоў звыш сарака біяграмаў святароў, якія ратавалі жыдоў і нават за гэта загінулі. І гэтая тэма паказалася мне пільнай для апрацоўкі. Гэтая выстава кранае актуальныя тэмы адносна тых хлусняў, якія паяўляюцца. Найбольш мяне забалела хлусня беларускай наблісткі Святланы Алексіевіч, якая ў інтэрв'ю недзе ў Амерыцы сказала, што ксяндзы заклікалі з амбон да забівання жыдоў. Паколькі я даследаваў усю Віленскую архідыяцэзію, апрацоўваючы гэтую мартыралогію, не знайшоў я ніводнага такога прыкладу. Таксама, бадай працуючы ў аддзяленні Польскай акадэміі навук у Парыжы, праф. Ян Грабоўскі, цяжка знайсці адпаведнае слова на тое, што ён піша, гэта проста нянавісць да польскага народа. Бо без апраўдання падае велічэзныя лікі замардаваных палякамі жыдоў і ў яго выказваннях няма мерытарычных тлумачэнняў, проста ганенне і нянавісць.

Калі гаварыць пра нашу архідыяцэзію, то, каротка рэзюмуючы, можна сказаць, што першым элементам ратавання жыдоў пасля ўваходу немцаў было ўціхамірванне настрояў. Бо трэба сказаць, што антыжыдоўскія настроі былі, бо жыды моцна заангажаваліся на савецкім баку. І многія ксяндзы з амбон або іншым чынам заклікалі да таго, каб не браць рэваншу. Усе былі свядомыя таго, што пагражае за дапамогу жыдам. Напрыклад, у Ваўкавыску ўласнік пякарні кінуў у бок гнаных жыдоў пакунак з печывам. І за гэта яго затрымалі і след па ім прапаў. У Вільні неўзабаве пасля ўваходу немцаў на Кафедральнай плошчы людзі заўважылі вісячых на шыбеніцах трупы мужчын; на іх целах былі карткі „За дапамогу жыдам". Усе былі свядомыя, што за дапамогу жыдам пагражае. Але трэба падкрэсліць, што духоўныя і вернікі Віленскай архідыяцэзіі ўключыліся ў разнастайную дапамогу жыдам.

Выстава інфармуе пра гэта, але складана на дваццаці стэндах паказаць цэласць тых спраў. Сярод тых, прадстаўленых на стэндах, маем трох святароў з Віленскай архідыяцэзіі, якія былі прылічаны да Праведнікаў народаў свету: езуіт Адам Штарк са Слоніма, ксёндз Ян Сялевіч, дэкан і пробашч у Варнянах і ксёндз Вітальд Шымчукевіч, беластачанін, які ў час вайны быў вікарыем у парафіі Рукойні каля Вільні. Таксама трэба сказаць і пра блаславёнага квяндза Міхала Сапоцьку, які таксама адзначыўся ў гэтай справе. Ён рыхтаваў да хрышчэння тых, якія да яго звярталіся. А тых, якія шукалі ў яго паратунку, кіраваў да сясцёр уршулянак, а яны пасылалі іх далей, у Чорны Бор каля Вільні, а адтуль да пробашчаў у Беларусі; менавіта адным з іх быў кс. Ян Сялевіч у Варнянах. Ён у 2000 годзе быў прылічаны да Праведнікаў народаў свету, хаця памёр яшчэ ў час Другой сусветнай вайны. Пра гэта пахадайнічаў хлапец, якога разам з маці ксёндз дaручыў сям'і ў сваёй парафіі. І той хлапец менавіта ў 2000 годзе пастараўся, каб ксяндза Сялевіча прылічыць да Праведнікаў народаў свету. І ўспамінае тую сялянскую сям'ю, людзей простых і бедных, але дзеліўшыхся тым, што мелі. Пісаў ён, што смак тае пахлёбкі, таго супу, якім іх кармілі, падаецца яму найсмачнейшым з усяго, што ў жыцці еў. Той Гірш Абрамовіч, бо так у час вайны ён называўся, пасля, будучы ў Францыі, памяняў прозвішча на Цві Бараноўскі і быў оперным спеваком. Таксама ў 2000 годзе ксёндз Штарк, дзякуючы амерыканскаму езуіту, быў прылічаны да Праведнікаў народаў свету.

Трэба згадаць, што сем святароў нашай Віленскай архідыяцэзіі загінула за ратаванне жыдоў. Складана пра ўсіх згадваць. Ёсць і беластоцкія акцэнты. Патран беластоцкага тэатра Аляксандр Вянгерка хаваўся на плябаніі каля Беластока. І здарылася патрэба перавесці яго ў іншае месца, бо было падазрэнне ў яго дэканспірацыі. І калі яго перавозілі ў іншае месца, затрымалі яго немцы, ён прызнаўся, што з'яўляецца жыдам і след па ім загінуў. Мяркую, што гэта магло быць на плябаніі ў Невадніцы, паколькі ведаю, што там на плябаніі пробашч кс. Адам Астроўскі нейкі час хаваў жыда; магчыма, што быў гэта Аляксандр Вянгерка.

На гэтай выставе ёсць прозвішчы сямідзесяці чатырох святароў. Гэта, можна сказаць, стан даследаванняў з мінулага года. Паколькі далей займаюся гэтай тэмай, маю прозвішчы чарговых пяці святароў. І часам складана зафіксаваць канкрэтныя прозвішчы. Напрыклад, прылічана да Праведнікаў народаў свету сям'ю з парафіі Курынец каля Вілейкі. Яны гаварылі, што ім ксёндз падкінуў; а там быў і пробашч, і вікары. Аднак складана ўстанавіць, хто быў у час вайны пробашчам, паколькі няма з таго часу дакладных спісаў, а пробашчы часта змяняліся або гінулі і не заўсёды было вядома, хто на іх месца прыбываў.

І трэба яшчэ моцна падкрэсліць, што самі ксяндзы нічога не зрабілі б без сваіх вернікаў. Каб выратаваць аднаго жыда ці жыдоўскую сям'ю, патрэбны быў шэраг людзей. Вось, хаця б згадваючы таго Цві Бараноўскага — магчыма, што гэта кс. Сапоцька падкінуў іх ксяндзу Сялевічу. Але ж апрача ксяндза Сапоцькі трэба было яшчэ сясцёр уршулянак з аднаго і другога кляштара, трэба было кагось спэўніць, хто б перавёз іх патайком у тыя Варняны, і знайсці такую сям'ю, якая б перахавала. І на Беласточчыне маем прыклады людзей, якія загінулі ратуючы жыдоў, напрыклад у Тшцянскай парафіі.

Да сказанага дадам, што ў Віленскай дыяцэзіі ў час вайны служыла звыш шасцісот святароў. Дакладчык згадваў раней прозвішчы Яна Грабоўскага і Святланы Алексіевіч. Пра першага польскамоўная Вікіпедыя згадвае толькі фармальна, затое больш падрабязна пішуць пра яго англа- і нямецкамоўныя артыкулы ў Вікіпедыі. Даследаваў ён лёс жыдоў у павеце Дамброва-Тарноўская, так на аснове паказанняў сведкаў, як і на аснове вестак, зафіксаваных у акупацыйных дакументах. Паводле англамоўнай версіі большасць канспіраваных жыдоў трапляла ў фашысцкія рукі ў выніку даносаў. Агулам, як сцвярджае Грабоўскі, палякі непасрэдна або пасрэдна прычыніліся да смерці каля дзвюхсот тысяч яўрэяў у час Другой сусветнай вайны.

Адносна Святланы Алексіевіч, дык складана штокольвек судзіць пра ейнае выказванне, паколькі яно ў даступных мне крыніцах прыводзіцца без кантэксту, у якім яно было сказана; гэтак жа сама, як без кантэкстаў прыводзілася нашумеўшае ў Польшчы нядаўнае выказванне ізраільскага міністра замежных спраў Ізраэля Каца. Магчыма, што ў выпадку Алексіевіч была гэта інтэлектуальная правакацыя на не надта даўняе прылічэнне нашым міністэрствам праўды цэлай нашай тытульнай нацыі да кагорты самаран. Але пра гэтае прылічэнне не трэба было так рупіцца, бо ў зводцы ўсіх Праведнікаў народаў свету ізраільскага інстытута Яд-Вашэм, найбольш менавіта грамадзян Польшчы — іх 6863 чалавекі. Далей ідуць Нідэрланды (5595), Францыя (3995), Украіна (2573), Бельгія (1731), Літва (891), Венгрыя (844), Італія (682), Беларусь (641), Германія (601), Славакія (572), Грэцыя (335), Расія (204), Сербія (139), Латвія (136), Чэхія (118), Харватыя (117), Аўстрыя (109)...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Transformation — свае беларусы

**Дзевяностыя гады асацыююцца мне з касетай фольк-рок гурта «Transformation».Тады я быў у пятым класе пачатковай школы. На Дзень жанчын хлопцы куплялі касеты для дзяўчат, а дзяўчаты — на Дзень хлопца. Я тады дастаў касету Джанет Джэксан. Касета мне не спадабалася і я з сябрам Андрэем, аднакласнікам і аднавяскоўцам, памяняў яе на касету «Вдвоем с тобой» гурта «Transformation». Гэты альбом мне асацыяваўся са шчаслівым дзяцінствам, праведзеным на вёсцы Маліннікі. Асабліва балады ў выкананні гурта «Transformation» мне вельмі спадабаліся. «Беларусачка», «Толькі з табою», «Тополя», «Колькі ў небе зор» гэта мае любімыя песні з гэтай касеты. Музыка з гэтага альбома мела нейкую магію, гук гітар і клавішаў запісаны быў з душою і глыбокім пачуццём. Размаўляю з лідарам групы «Transformation» Янушам Усціновічам — бас-гітара, Юрыем Краўчуком — вакалістам і гітарыстам ды Міраславам Лешчуком — клавішнікам. Яны стварылі маю любімую беларускую групу «Transformation».**






TRANSFORMATION

Kasetę dedykujemy naszym braciom Wiktorowi U. i Grzegorzowi L. przebywającym przymusowo w łagrze k/Riazania (ROSJA).

STRONA A.
1. Tysz mene podmanuła 3'55"
2. Kalina czornaja 3'03"
3. Biełarusaczka 4'51"
4. Czorne oczka 3'50"
5. Tolki s Taboju 3'10

STRONA B.
1. Topala 4'19"
2. Skolki u niebie zor 5'24"
3. Czom Ty nie pryszou 4'09"
4. W dwajom s Taboj 5'00"

Skład zespołu.
...SZCZUK MIROSŁAW – keyboards, perc. automat
...AWCZUK JERZY – guitar, vocal
UŚCINOWICZ JANUSZ – bass guitar, vocal

Licencja i produkcja.
Firma fonograficzna „BEST OF THE BEST"
☎ 75-...

Kopiowanie bez zgody producenta – ZABRONIONE

**Юрка Буйнюк: — Як чальцы гурта «Transformation» пазнаёміліся?**

**Міраслаў Лешчук**: — Гэта былі большменш 1988-1989 гады. Мы былі тады ў войску. У 1988 годзе з Янушам мы служылі ў часці МУС. Тады нам вельмі падабалася музыка гурта «Дубіны». Мы рашылі заснаванаваць гурт «Transformation», накшталт менавіта гурта «Дубіны». Мы былі ўсе свае людзі, беларусы з Беласточчыны: Юрка Краўчук з Белавежы, Януш Усціновіч з Міхалова, а я з вёскі Тапілец. Калі я трапіў у гурт «Transformation» мне тады было 22 гады.

**Юрый Краўчук**: — Мы разам з Янушам Усціновічам былі ў войску. Там мы стварылі гурт і потым да нас дайшоў Міраслаў Лешчук. Ён у войску быў крышку пазней, бо ён ад нас малодшы.

**— Вы былі гітарыстам і вакалістам гурта?**

**Юрый Краўчук:** — Так, я іграў на гітары і спяваў.

**— Першай касетай «Transformation» была касета «Tylko Ty» на польскай мове. Другая была ўжо на беларускай і рускай мовах. Як вы запісвалі гэтую касету?**

**Януш Усціновіч:** — Як усе тады, мы запісвалі касету ў хаце. Мелі прафесійны міксер і мікрафоны. Запісвалі на нармальны двухкасетны магнітафон ужываючы ўсе інструменты.

**Міраслаў Лешчук:** — Мы запісвалі ў Беластоку, у пакоі Януша Усціновіча. Гэта былі спартанскія ўмовы на той час. Альбом «Вдвоём с тобой» атрымаўся з душою. Можа выкананне было рознае, але прыемна яго слухаць. Мяккі запіс на магнітафоннай плёнцы інакш гучыць, чым запіс у лічбавай якасці. Запіс атрымаўся з глыбіні сэрца. Гэта былі нашы самыя прыгожыя часы.

**— Апаратура, інструменты былі дарагія?**

**Юрка Краўчук:** — Пэўна, што былі вельмі дарагія. На пачатку дзевяностых гадоў нічога не было. Трэба было зайграць пяць імпрэзаў, каб было за што купіць. Нашым бацькам было вельмі цяжка звесці канцы з канцамі і яшчэ гітару купіць падлетку.

**— А на інструментах якой маркі вы ігралі?**

**Юрка Краўчук:** — Я іграў на нямецкай электрагітары маркі «Musima».

**Януш Усціновіч:** — Гітара-бас, клавішы, перкусійны аўтамат. На гэтыя часы ў нас былі вельмі добрыя інструменты: «Casio Kz3000» параўнальны з «Yamaha DSX7», на той час найнавейшае было гучанне. Гітара «Sender Vicaster», бас «Ibane Studio bas». Гэта былі дарагія рэчы на той час. Калі я купіў гітару, дык жонка схапілася за галаву: «Чалавеча, за гэта можна было б новы Фіят 126 Р купіць!».

**Міраслаў Лешчук:** — Тады я іграў на «Yamaha DX7». Пасля быў «Korg A1». Тады я мяняў інструменты на лепшыя і навейшыя. Нашым найбольшым зацікаўленнем была традыцыйная беларуская музыка, якая выводзілася з музыкі групы «Дубіны». Юрка Краўчук іграў на гітары, Януш Усціновіч — на бас-гітары, а я на клавішах. На гэты час крыху мы выступалі на беларускіх забавах.

**— Касета «Вдвоем с тобой» была прысвечана Вашым братам, якія ў той час былі ў лагеры ў Расіі. Чаму яны там апынуліся?**

**Міраслаў Лешчук:** — Янушаў і мой брат паехалі за ўсходнюю мяжу гандляваць. Тады модныя былі ланцужкі з белымі жамчужынкамі. Іх затрымалі на руска-беларускай мяжы і прыгаварылі да двух гадоў зняволення ў лагеры пад Уралам. Гэта было напрыканцы васьмідзясятых гадоў. Мы з сям'ёй гэта вельмі перажывалі, таму беларускую касету прысвяцілі братам.

**Януш Усціновіч:** — Калісьці модныя былі жамчужынкі, якія прывозілі з Кітая. Там каштавала яна чацвёртую частку долара, у Польшчы адна каштавала два долары, а на Беларусі каштавала тры долары. Прывозіў у Польшчу, а з Польшчы на Беларусь. Але нельга было ўвозіць на Беларусь, бо гэта лічылася злачынствам.

**— Браты раней вярнуліся з лагера?**

**Міраслаў Лешчук:** — Так, іх раней адпусцілі. Гэта быў непрыемны перыяд у іх жыцці. На шчасце ў нашай сям'і пра гэта ўжо забылі. Янушаў брат ужо даўно не жыве. У лагеры жыццё было страшнае, бывала, што елі авёс. Для нас злачынства было ніякае, але ў іх аказалася суровае. Гэта былі непрыемныя тэмы на гэты час.

**Януш Усціновіч:** — Адсядзелі пад Уралам — адзін паўтара года, а другі два гады.

**— Дзе група «Transformation» іграла канцэрты?**

**Міраслаў Лешчук**: — Пераважна мы ігралі ў Гарадку, Міхалове, Беластоку. Выступалі таксама ў Дубінах, у Белавежы.

**Юрый Краўчук:** — Таксама ігралі вяселлі і забавы.

**— Як доўга існавала група «Transformation»?**

**Януш Усціновіч:** — Існавала можа тры-чатыры гады. «Casanova" началася ў 1992 ці 1993 годзе, а «Transformation» — з 1988 або 1989 года.

**— Ці касета «Вдвоем с тобой» добра прадавалася?**

**Юрый Краўчук:** — Вельмі добра прадавалася і сярод слухачоў мела добрую ацэнку.

**Міраслаў Леўчук:** — Матэрыял касеты мы пераказалі выдаўцу. Праўдападобна добра прадавалася. Мы за яе вялікіх грошай не ўзялі. Мы яе запісалі для сябе. На гэты час цяжка мне сказаць колькі экземпляраў касеты прадалося. За грошы ад касеты купілі мы крыху інструментаў, апаратуру, мікрафон.

**— Чаму на вокладцы касеты змешчана малпа, а не ваш здымак?**

**Януш Усціновіч:** — Я вось файны такі здымак знайшоў. Мне здаецца, што кідаецца ў вочы. На гэты час не было здымкаў гурта «Transformation», таму што гэта быў цяжкі час. Нават першы лагатып гурта «Casanova» я размалёўваў уласнаручна.

**— Як успамінаеце супрацоўніцтва з сябрамі?**

**Міраслаў Лешчук:** — Я вельмі добра ўспамінаю супрацоўніцтва. Януш і Юрый гэта прафесіяналы. Яны іграюць з вялікай душой, вялікім сэрцам і страсцю. Музыку нельга падмануць. Уражлівасць і тонкую душу можна пазнаць па ігры на інструментах і па песнях.

**Юрый Краўчук:** — Гэта быў вельмі файны час. Вельмі прыемна ўспамінаю. таму, што тады нешта адбывалася і з гэтага чэрпалася найбольшае задавальненне.

**— Чаму ваша група распалася?**

**Януш Усціновіч:** — Памяняліся людзі. Трэба было памяняць назву з «Transformation» на «Казанова», калі ўваходзіла на польскі музычны рынак «disco polo».

**Міраслаў Лешчук:** — Тут ішло пра працу. Я памяняў працу і не мог іграць з Янушам і Юркам. Кожны з нас пайшоў у сваім музычным напрамку.

**— Можа яшчэ вы прысутнічалі ў іншых праектах?**

**Міраслаў Лешчук:** — Меў я нагоду зайграць з Анатолем Баравікам. Разам мы выступілі ў «Studio Weekend» на TVP 3 Białystok. Я там іграў на акардэоне. Разам мы рабілі фестываль імя Булата Акуджавы ў Гайнаўцы, але нашы дарогі разышліся.

**Юрый Краўчук:** — Зараз іграю ў гурце «ВМА». Апошнім часам мы ігралі на балі беластоцкіх спартсменаў у Беластоку. Іграем зараз да танцаў.

**— Чым вы зараз займаецеся ў музычным плане?**

**Міраслаў Лешчук:** — Ад часу «Transformation» мінула многа часу. Зараз займаюся зусім іншай музыкай з памежжа джазу. Мы іграем для ўласнага задавальнення. Я калісьці гаварыў з Янушам, каб зрабіць рэактывацыю гурта, але кожны з нас заняты. Януш іграе з гуртом «Casanova», Юрый выступае ў гурце «ВМА» Богдана Альбрыцкага. Можа калісьці ўдасца адбудаваць наш гурт на жывых інструментах тыпу гітара, бас, бубны. Можа калісьці вернемся і разам будзем іграць, але пакуль кожны з нас мае свой музычны праект. Па-за музыкай я займаюся транспартам. Маю сваю транспартную аўтобусную фірму «Korona».

**— Вы, спадар Міраслаў, раней ігралі ў гурце «Korona» музыку «disco polo»?**

**Міраслаў Лешчук:** — Я іграў у гэтым гурце на клавішах. Меў свае кампазіцыі. Мы разам выступалі з Кшыштофам Кірыцкім, які ў 2015 годзе памёр.

**— Ці вашы дзеці займаюцца музыкай?**

**Юрка Краўчук:** — Мой наймалодшы сын Кшысек іграе на скрыпцы і гітары. Ён не закончыў музычнай школы, але хадзіў у музычны кружок вучыцца ігры на скрыпцы.

**Міраслаў Лешчук:** — Сын іграе на бас-гітары, выступаў у рок-групе.

**— Адкуль у вас зацікаўленасць музыкай?**

**Юрый Краўчук:** — Некалькі акордаў паказаў мне сябар. Раней я вучыўся іграць на акардэоне ў музычным кружку ў Белавежы.

**Міраслаў Лешчук:** — Я закончыў музычны кружок у Беластоку.

**Януш Усціновіч:** — Я сам навучыўся іграць на гітары, а бацька іграў на мандаліне.

**— Як працаваў музычны кружок?**

**Юрый Краўчук:** — Мой бацька іграў на акардэоне і запісаў мяне ў музычны кружок і так пачалося. Кружок вёў настаўнік музыкі ў Белавежы. Прыходзілі мы да яго дахаты. Ён казаў навучыцца песень па нотах ці акордах і пазней правяраў ці мы добра іграем на акардэоне. Ігралі мы ў хаце на бяседах. Пазней я пачаў іграць на гітары.

**— Вельмі дзякую вам за размову**

**Міраслаў Лешчук:** — Нам вельмі прыемна, што нехта зацікавіўся гісторыяй гурта «Transformation».

**Юрый Краўчук:** — Вельмі прыемна, што вам спадабалася касета «Вдвоем с тобой» гурта «Transformation».

Гутарыў **Юрка БУЙНЮК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Каб свабодна размаўляць з людзьмі!

— Сам вучыўся, перарабляў цэлы матэрыял, — без лішняга самазахаплення кажа **Мікола Здрайкоўскі**, — ну і многа чытаў, практыкаваўся...

— А я калі чагось не ведаў, пытаўся ў бацькоў, — дадае **Кандрат Косцін**, — але ў прынцыпе сам падрыхтаваўся...

Такіх лаўрэатаў як Мікола і Кандрат са свечкай шукаць. З верасня хлопцы паступілі ў двухмоўную школу — ПШ № 53 у Беластоку. Аднак для беларускай мовы яны пакінулі трывалае месца ў галаве і сэрцы.

— Я проста хацеў сябе праверыць, — сціпла сцвярджае Мікола.

Да конкурсу прыступае ён з чацвёртага класа і ўжо на яго рахунку чатыры граматы лаўрэата па роднай мове. І гэтае захапленне адлюстроўваецца ў жыцці беларускага асяроддзя. Ужо каторы раз Міколка чытае па-беларуску ў царкве кнігу «Апостал» у час літургіі, прымеркаваный да 25 Сакавіка. Тады старыя і малыя глядзяць на яго з нявыказаным захапленнемі найбольшымпрызнаннем. Ды што тут казаць, заўсёды прыемна пагаварыць з Міколкам і Кандратам. Яны не толькі ўмеюць прыгожа размаўляць, але заўсёды гавораць з толкам, з цікавасцю да людзей і свету. Так як сёння, калі сустракаемся перад канцэртам «Падляшскага вянка». Разам сяброўка **Марыся Пякарская,** адзіная лаўрэатка з беластоцкай «чацвёркі». Да гэтай пары Марысю ўспрымалі як арыгінальную салістку з мілагучным, чыстым вакалам. У навуковым поспеху па беларускай мове дапамагла ёй пастаянная праца. Ці дапамаглі тут спевы і танцы? Напэўна дазволілі шырэй і глыбей адчуць эстэтыку роднай мовы. Марыся, так як хлопцы, свабодна размаўляе па-беларуску...

Падобныя словы можна сказаць



Вікторыя Гаць, Мікола Здрайкоўскі і Кандрат Косцін

пра **Вікторыю Гаць** з бельскай «тройкі», якая таксама апынулася ў прэстыжнай кампаніі лаўрэатаў. Вікторыя ўмее не толькі заспяваць па-беларуску песню, сказаць вершык на сцэне. Яна выдатна спраўляецца як журналістка. Дзякуючы яе допісам школьныя падзеі сталі ўжо гістарычнымі. Яе ўмелась назіраць сапраўднае жыццё, патрэба па-размаўляць з людзьмі абуджае патрэбу ўдасканальваць граматыку і мову. Вось і дабілася поспеху!

Трэба абавязкова згадаць наймалодшага лаўрэата, пяцікласніка **Міколу Абрамюка**. Мікола набраў на раённым этапе найбольш балаў. Калі мы працавалі разам на Сустрэчах «Зоркі», аказалася, што ён свабодна размаўляе па-беларуску, па-руску і па-свойму (вядома, ён піша і размаўляе і на іншых мовах). Здзівіла, што гэты беластоцкі хлапчук размаўляе *як стары* па-падляшску. Ну, проста фенномен! Калі я спытала, адкуль у яго веданне падляшскай мовы, Міколка зірнуў на мяне мудрымі вачыма і адказаў:

— *То ж трэба з людзьмі говорыті!*

Напэўна на поспех Міколкі паўплывала і атмасфера яго школы. Вось з яго непублічнай школы свсв. Кірылы і Мяфодзія приступіла да конкурсу больш за сорак асоб. Гэта амаль палова ўсіх сёлетніх канкурсантаў. Тут трэба адзначыць, што да школьнага этапу приступіла ажно 108 вучняў. Праўда, вялікую актыўнасць праявілі толькі лічаныя школы: НШ свсв Кірылы і Мяфодзія, бельская «тройка», Дубічы-Царкоўныя, гайнаўская «чацвёрка» і Нараўка. Наколькі панавала зацятае спаборніцтва, падказваюць лічбы. Вось да апошняга, цэнтральнага этапу дайшлі толькі 19 асоб, з якіх 15 атрымала званне лаўрэата. У гэты раз найбольш балаў набрала васьмікласніца **Аня Радзівончык** з Нараўкі, за ёй былі **Мікола Здрайкоўскі** і **Кандрат Косцін**. Варта таксама прыкмеціць цікавую з'яву апошніх гадоў. Сёлета да раённага этапу приступіла ўжо пяць вучняў, якія не вывучаюць беларускай мовы ў школе. Апрача згаданых Міколы і Кандрата, лаўрэаткай стала Кася Астапчык з ПШ № 1 у Беластоку, а на раённым этапе змагаліся браты Максім і Яраслаў Кавецкія з беластоцкай «пяцёркі».

Першай сярод школ, якая прыдбала найбольш лаўрэатаў, стала **праваслаўная школа з Беластока**; усіх іх падрыхтавала настаўніца **Іаанна Марко.**

А вось поўны спіс вучняў, якія атрымалі званне лаўрэата па беларускай мове за 2018/2019 год. Пералік прозвішчаў і школ даецца паводле алфавіту. Бо што тут казаць — усе вы малайцы!

**Мікола Абрамюк** — НШ свсв. КіМ у Беластоку

**Кацярына Астапчык** — ПШ № 1 STO ў Беластоку

**Юстына Бакуменка** — НШ свсв. КіМ у Беластоку

**Алеся Буткевіч** — НШ свсв. КіМ у Беластоку

**Эвеліна Васілюк** — КШ з ДНБМ імя Яраслава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім

**Вікторыя Гаць** — КШ з ДНБМ імя Яраслава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім

**Мікола Здрайкоўскі** — ПШ № 53 у Беластоку

**Дам'ян Іванюк** — ПШ № 4 у Гайнаўцы

**Эмілья Калодка** — НШ свсв. КіМ у Беластоку

**Кандрат Косцін** — ПШ № 53 у Беластоку

**Ніна Місюк** — НШ свсв. КіМ у Беластоку

**Марыся Пякарская** — ПШ № 4 у Беластоку

**Марыся Паўлючук** — КШ з ДНБМ імя Яраслава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім

**Аня Радзівончык** - ПШ у Нараўцы

**Вікторыя Раеўская** — КШ з ДНБМ імя Яраслава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім

**Зорка**

**Фота Аляксея Мароза**

Рыгор Барадулін

## Красавік ішоў сялом

Красавік ішоў сялом,
Грэў прасторы ласкаю.
Як махнуў ён рукавом —
Вылецелі ластаўкі.
Беражком ступаў сухім,
Па ярах караскаўся.
Рукавом махнуў другім —
Луг смяецца краскамі.
Закасаўшы рукавы,
Неба ўзняў вясёлкамі.
Рады пушчы, паплавы
Месяцу вясёламу.

## УВАГА КОНКУРС!

## № 14-19

**Гаршчок разумны, хоць сем дзірак мае.**

**(Г.....)**

Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 21 красавіка 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адаз на загадку № 10: на глобусе і на карце.**

**Узнагароды, чатырохколерныя аўтаручкі, выйгралі Тамаш Ваўранюк з Нарвы, Мартына Місеюк, Ася Пяткевіч, Ніна Місюк, Ігнацы Дудар з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока, Агата Галубовіч з Шудзялава, Аляксандра Весялоўская, Аляксандра Тамчук, Каміля Бутко з бельскай «тройкі», Данель Ляшко з Бабік. Віншуем!**

# Пра футбол ведае ўсё!

29 сакавіка ў нашу школу завітаў Арцём Сізінцаў — журналіст Радыё Рацыя, спецыяліст па футболе. Журналісцкі кружок падрыхтаваў яму дзясяткі пытанняў пра яго хобі. Кожны вельмі зацікавіўся госцем, таму што і ў нашай школе многія ездзяць на матчы каманды «Ягелонія». Нават некаторыя маюць шалікі, майкі і блузы з надпісам «Ягелонія», якія апранаюць на матчы, або важнейшыя святы школы. Спадар Арцём расказаў нам пра футбол у Беларусі, пра свае любімыя каманды і пра заўзятараў. Мы былі ўражаны яго ведамі пра футбол. Нам здавалася, што мы ўжо многа ведаем, але... Нас задзівіла, што заўзятары футбольных каманд БАТЭ Барысаў і «Пяст» Глівіцы вельмі з сабой сябруюць. Адны прыязджаюць з Беларусі ў Польшчу на матчы «Пяста», а заўзятары з Глівіц ездзяць у Беларусь падтрымаць гульцоў з Барысава.





Мы, як журналісцкі кружок, падзякавалі спадару Арцёму самастойна падрыхтаванымі рысункамі і шакаладам, які купілі ў нашай вясковай краме.

Пасля размовы надышоў час на матч! На футбольнай пляцоўцы мы давалі з сябе ўсё, але было вядома, што каманда спадара Арцёма пераможа. І так было, вынік — 2:0! Прайграўшая каманда ўжо чакае матча ў адказ. Не можам дачакацца чарговага матча, бо спадар Арцём паабяцаў, што яшчэ прыедзе з намі пагуляць. Можа неўзабаве яго любімай камандай будзе дружына са школы ў Залуках!?

**Журналісцкі кружок з Залук**
Фота Улі Шубзды



# Вясновы Гарадок

Пачатак вясны ў нашай школе адзначаўся лірычнай атмасферай. 22 сакавіка адбыўся дэкламатарскі конкурс „Мой любімы верш". Вучні гаварылі загадзя падрыхтаваныя вершы. Сярод 52 твораў таксама былі радкі па-беларуску. Вылучэнне атрымалі Кшысь Кахановіч з вершам „Песня" і Вікторыя Харкевіч з вершам „Старанная вучаніца". Я спытала Кшыся, чаму выбраў такі верш.

— Гэта ўлюбёны верш маёй мамы, — адказаў ён.

**Малгося Сэрафін**,
Школа ў Гарадку

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Мудрыя варанянЯты

Паклікала да сябе варона варанянят і кажа:

— Дзеткі, будзьце зыркімі і ўважлівымі, як агню сцеражыцеся людзей. І асабліва тады, калі чалавек схіляецца, каб падняць камень. Уцякайце, хавайцеся, дзе толькі магчыма. Інакш, вам капцы.

Птушаняты паслухалі навукі маці і пытаюць:

— Матуля, а што нам рабіць калі наблізіцца чалавек з гатовым каменем у руках?

Варона задаволена каркнула і пахваліла дзяцей:

— Ну, цяпер я рада і спакойная. Я ведаю, што вы зразумелі мой урок.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

# Польска-беларуская крыжаванка № 14-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 10-2019:**
Кмен, шок, лік, кабыла, робат, хобат, сон, коні, Іда, лабок. Клік, ход, макарона, боб, шыба, латка, шмат, Об, но, школьнік.

**Узнагароды, сціральныя гумкі,** выйгралі **Матэвуш Адамовіч** з Нараўкі, **Оля Мартыновіч** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока, **Кацпэр Каліноўскі** з Нарвы, **Віялета Смолюк** з Арэшкава, **Павел Міранчук, Каміль Кубаеўскі** з Орлі, **Аляксандра Бакун** з ПШ № 1 у Гайнацы, **Габрыель Ганіцкі** з Бабік, **Дам'ян Філіманюк** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім, **Кінга Рамазэвіч** з Шудзялава, **Кацпэр Грынчэль, Крыстыян Мойсак** з Залук. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Bór / Książka | | | | Oka / Kosz | | Kuzyn | Kropka |
| | Bób / Akt | Krok / Jał | | | | | Wiek / Flirt | | | |
| | | | | Szafa / Kuc | | | | | | |
| Harmonia | | | | | Święta | Ostrze / Ciało | | | | |
| Klik / Cypr | | Guścik | | | | | | | | |
| | Czwartek | | | | | | | Jak | | |
| | Planeta | As | Bierz | Jałta | | | | | Akr | |
| | | | | | | | | | | |
| | | | | Rosa | | Krzyż | | | | |

(Пра кнігу Надзеі Артымовіч „Краявід з невідочнай памылкай”)

# „ВЕРУ Ў АДНО НЕПРАМОЎЛЕНАЕ СЛОВА”

**Не так і шмат кніг маюць нашы паэты, дзе поруч іх вершы і перастварэнні на іншую мову. Беларуская паэтка з Бельска Надзея Артымовіч атрымала прыгожы падарунак — кнігу „Краявід з невідочнай памылкай” выдадзенай Праграмнай радай тыднёвіка «Ніва» у 2018 годзе, куды ўвайшлі творы розных гадоў.**

Гэта праўдзівы партрэт душы. Кожная кніга — такі партрэт? Далёка не заўсёды. Бо чалавеку, асабліва жанчыне, уласціва прыхарошваць, упрыгожваць сябе, свет, іншых. Надзеі Артымовіч гэта непатрэбна. Душа гераіні наколькі адкрытая (самоце, болю, адзіноце), настолькі схаваная за сценамі свайго дому без даху, на сваёй выспе, у сваіх снах, адсюль складанасць сумоўя са светам, мінімальная прысутнасць (дакладней, толькі пазначанасць) людзей. Таму і паэтычнаму радку характэрны абарванасць, незавершанасць, недасказанасць, што камусьці мо падасца мудрагелістасцю.

Адкрывае выданне верш-эпіграф, які ўвабраў у сябе ўсе асноўныя матывы зборніка. Так класікі ўкладалі свае кнігі. Згадаем „Вянок” Максіма Багдановіча, „Матчын дар” Алеся Гаруна. Не думаю, што паэтка арыентавалася на гэту традыцыю. Проста яна таксама класік. Сучаснае беларускае паэзіі Польшчы, „Белавежы”. У Беларусі, на жаль, яе творчасць ведаюць вельмі мала. Вось ён — верш-эпіграф:

уваходзіш у краявід з відавочным дэфектам
гэта называеш домам пажоўклай кніжкай
неабходнай рэпетыцыяй перад таямнічай
вандроўкай

— гэты краявід з невідочным дэфектам
ёсць твой

Тут усё — жыццё чалавека (*краявід з відавочным дэфектам*), ягоны зямны прытулак, дом, а для паэта натуральнае параўнанне з кнігай, якую ўсё жыццё і піша, і чытае. Зямное жыццё — неабходная рэпетыцыя перад вечнасцю (*таямнічай вандроўкай*). У кожнага жыццё (*краявід з невідочным дэфектам*) сваё, кніга свая. І памылкі свае, нябачныя, незразумелыя для іншых.

Не станем надалей звяртаць увагу чытача на вельмі цікавыя пераклады на польскую мову, бо гэта асобная, вялікая тэма. Каб паказаць адметнасць перастварэнняў Марціна Рэмбача, звернемся толькі да гэтага верша. Пераклад, зразумела, недакладны. Інакшым не бывае. Недакладнасць можа выконваць станоўчую ролю, калі ўзмацняе сэнсавае напаўненне, калі знойдзены новыя адценні. Як у апошнім радку: *to ty*. Нат само гучанне больш дасканалае: сказана як адрэзана. А вось у першым радку *wrastasz* замiж *увахoдзіш* скажае сэнс, бо ў кнізе скразны вандроўны матыў і менавіта гэтым словам распачынаецца ўся кніга. Лірычная гераіня якраз з тых, хто не прарос, не пусціў карэнне, хто прайшоў па жыцці, рыхтуючыся да вечнасці.

Некалькі скразных матываў, між якіх вылучым матыў горада. Бельск. Якім толькі не паўстае гэты горад у паэзіі Надзеі Артымовіч. Гэта далёка не замілаваная любоў да месца нарадзінаў, ён стаўся ў адначассе і *чужым і блізкім*. У даўнім вершы *ікона* прастора горада напаўняецца малітоўным сэнсам.

вечар у Бельску — камень і крыж
вечар у Бельску — блакітны туман
Бельск — ікона малітва сон жыццё

Пераклікаецца з паэтычнай мініяцюрай гарадзенскай паэткі Дануты Бічэль: *Каложа — камень і крыж*. Але вернемся пазней да верша *ікона*.

І самы апошні ў кнізе таксама вяртае чытача ў Бельск. Гэта — сыход. Тут пануе царства шэрага. Няма ні веры, ні святла, ні нябеснага блакіту. Паўстае вобраз парога, таксама скразны ў кнізе, і адзінокі пакінуты мастак:

Над Бельскам шэрае неба
шэры брук, шэры парог, забыты музык
на шэрым парозе

У цэнтральнай страфе — зразумела, яны тут умоўныя — выведзеная дасканалая формула гэтага горада, ды і гэтага Краю наогул:

Бельск
мястэчка памежжа мястэчка бязмежжа

Адным словам паэтка то лакалізуе прастору горада, то пашырае яе да бясконцасці. То пераносіць у паэтычную прастору створаныя ў рэальнасці межы, між якіх існуе яе горад, то адным штрыхом разбурае іх. Бо паэзія магутней за справы людскія. Бо гэты горад узгадаваў Паэтку, пусціў у бязмежжа яе слова.

Гераіня Надзеі Артымовіч не жыве ў свеце людзей. Калі людзі з'яўляюцца ў яе паэтычнай прасторы, то толькі дзеля таго, каб пайсці, сысці, як сышлі самыя блізкія людзі: *родны бацька прайшоў побач*. Гэты вобраз з верша „З падарожжа”, дзе гучыць усведамленне завершанасці шляху, трагічная безвыходнасць, калі прастора жыцця замыкаецца і выйсця няма. Паэтка нячаста дазваляе сабе наўпрост выказаць свае пачуцці, жаданні. Гэты верш выключэнне:

Я так баялася
І дзверы зрабіліся сцяной
Я так баялася
І ўсё прайшло
Учора падарожжа
А сёння
Няма дня
Толькі карціна ў кіно

Страшна не тое, што ўсё прамінула, што дзень жыцця перарваўся ў кадр кінахронікі, а тое, што *дзверы зрабіліся сцяной*. Гэты радок, паўтораны двойчы, дамінуе над усім зместам, выступак кульмінацыяй трагедыі.

Сыход маці ўспрымаецца як страта слова, верша, як немата роднае хаты: *як матчынае маўчанне // анямелы парог*. Вобраз дому па сутнасці адсутнічае, толькі прамільгнуў у вершы *і гэта не пара*, бо гэта і не дом, бо такім, анямелым, сапраўдны дом не бывае: *добра знаеш // дом без даху // дзе няма слоў*.

Як яна жыве, гэтая самотніца ў анямелай прасторы? А яна не жыве. Яна толькі занатоўвае жыццё-паміранне, а сама на неабжытай, адасобленай ад свету выспе, адмежаваная ад усяго. Бо ўсё або даўно памерла, або ў стане сну-паміраня, засталася толькі чыстая прастора:

на маёй выспе
паміраюць сонныя меандры
і чорныя лабірынты



на маёй выспе няма
вачэй свету
мая выспа
чыстая прастора

У вершах Надзеі Арытмовіч адсутнічае тое, што ёсць маркерам, апазнавальнымі знакамі жаночае паэзіі: каханне, кветкі, спатканне, ростані, слёзы. Ні аднае слязы не праліла яе гераіня. Жадных мараў, летуценняў, жаданняў, чаканняў. Гэта таксама жаночая паэзія, але іншая. І кветкі тут ёсць, хай мізар, але іншыя: *нагам, як зломленым кветкам* і *капелюшы аздобленыя сухімі кветкамі*. Вось і ўвесь букет. Параўнанне эратычна-скалечанага і засохлая аздоба. Ніякае красы, водараў, шолахаў, колераў. Наогул, колеры ёсць. Ужо згаданы шэры. Самы распаўсюджаны. Ці ўлюбёны? А ці абавязкова любім тое, што вакол? Ці ў нас саміх. Ёсць і цалкам зафарбаваны верш, у якім колеры нясуць немалую сэнсавую нагрузку:

першую літару я напісала
зялёным алоўкам
другую літару я напісала
чорным алоўкам
трэцюю літару я пішу
чырвоным атрамантам

Першапачатак і ў паэзіі, і ў жыцці — маладое, светлае, травеньскае якога колеру? Зялёнага. Поўня жыцця, калі зведана многа, пішацца як каму лёсіла. Мо хто застанецца ў яркім барвовым, зыркім настуркавым, звабным бэзавым ці наскім валошкавым, а яе гераіня — у непапраўным, незваротным чорным. І на заканчэнне, відаць, усе, каму баліць, напішуць ужо не фарбай, а крывёю — чырвоным, як піша сёння Надзея Артымовіч. Бо ўсё даўно зжыта, перажыта, перагарэла і адыходзіць, каб у тым пазамежжы пачаць з чыстага ліста:

я забываю стомленасць тваіх
белых пальцаў
я забываю жоўтую музыку
„Beatles”
заўтра чысты поранак

Адзінае прызнанне ў каханні — да лістапада. Да таго, што памірае. Лістапад — гэта прыгожа. Краса шматколернага лісця, танец на ветры, лёгкае, плаўнае кружэнне. Але ў вершы Надзеі Артымовіч усё не так. Што кахае яе гераіня, што прынёс лістапад? Спапяліў, зруйнаваў, не пакінуўшы следу па мінулым, бо ён і ёсць мінулае, якое пануе навокал:

Лістапад расплыўся
Як вулканічная лава
Што зраўняла прастор.

І ў часе таксама пануе. Усё нівелюецца, час застывае, быццам пакрываецца лавай. Аўтарка выкарыстоўвае лексічную анафару (паўтор у пачатку радка), якая не толькі кампазіцыйна арганізоўвае, аб'ядноўвае паэтычныя радкі, але і спрыяе павышанай эмацыянальнасці, узвышае тон гучання верша:

Лістапад расплыўся
Зраўняў усе мае дні.
Дні мёртвыя
Дні неспакойныя
Дні без дзён і начэй

Лішне нат казаць, што гераіня паэзіі Надзеі Артымовіч адзінокая. Проста яна інакш адзінокая. Не між звычайных, а між адзінокіх людзей. Гэта вышэйшая ступень адзіноты, з якое няма іншага выйсця як толькі сыход-сон. І гэта прымаецца як дадзенасць, без адмаўлення, без наракання:

адзінокая сярод адзінокіх
кідаюся ў фіялетавы прастор
каб заснуць

„У творчасці паэта ёсць адзін важны верш”, — гэтай катэгарычнай заявай паэткі з даўняга інтэрв'ю пачынае прадмову Яўген Вапа. Яе нярвата ўспрымаць літаральна. Розныя яны, тыя *важныя* вершы. Напачатку іх выбірае чытач (і гэта таксама розныя вершы), пасля час. Для мяне ж самы важны, самы прыгожы нат не верш, а адзін радок з верша *ікона*: *„веру ў адно нявыказанае слова”*, цалкам самадастатковы, глыбінны, непаўторны. І наогул, гэты верш, напісаны ў мінулым стагоддзі, адзін з нямногіх светлых, узнёслых, праўдзівы апафеоз красе, сімвал веры ад паэткі Надзеі Артымовіч:

стаю
хвіліна прыгажосці
акіян хараства
хвіліна
веру ў вечнае хараство
веру ў адно нявыказанае слова
веру ў белае маўчанне

Выдала кнігу праграмная рада тыднёвіка „Ніва”. Шыкоўнае выданне ў строгай прастаце, багатая, надзейная папера, мастацкія здымкі. І ніякае калярыстыкі ў афармленні: таго патрабуе суворы змест. Толькі дробныя ўкрапленні жывога колеру: маленькія пунсовыя гратачкі-зорачкі, што пазначаюць пачатак вершаў, такі ж пасачак-адгортачак і такая ж заставачка пераплёту.

Закончу роздум пра кнігу з партрэтаў паэткі. Яны ўражваюць надзвычайна. І так многа гавораць! Ды непатрэбна нічога дадумваць, адно ўважліва перажыць вершы, дзе гэтыя партрэты дакладна намаляваны. Калі б іх не было, уяўленне падказала б яе менавіта такою. Рука, якая бязважка, бяссільна, бязвольна апускаецца, ажывае толькі таму, што трымае папяросу, быццам за жыццё трымаецца, а *заўсёдная папяроса без смаку*. А яшчэ *шэрымі рукамі падкідваю нясконччаныя размовы*. Ад якіх рукі стаміліся — хочацца дапоўніць — і сталі шэрымі — самы характэрны колер нияркае палітры кнігі. Яе прысутнасць прывідная, ужо не ў рэальнасці, а ў тым памежжы, якое адчыніне іншы свет, дзе цяжка трымацца: *як выстаяць мне ў дзвярах // нарыхтаваных у замкнутасць сну*. Яе твар схаваны, і профіль таксама за валасамі, профіль кабеты ў чорным на шэрым фоне. Гэта яе воля, яе прызнанне: *баюся выразнасці свайго партрэту*. І цалкам лагічная выснова: *мяне амаль няма*. Слаба ратуе гэтае кволае *амаль*, роўна настолькі, каб гучала *адно непрамоўленае слова*. Брава, пане мастакфатограф Павал Грэсь, Вы дасканала прачыталі паэтку. Здымкі гавораць без слоў: *мяне амаль няма*. Ёсць толькі вершы. Глыбокія, балючыя, нат суворыя вершы Надзеі Артымовіч, якія, маю надзею, застануцца. І кожны чытач знойдзе між іх свой важны верш.

**Альжбета КЕДА**

***PS***. Маем, чаго жадаем. Калі пасля выхаду кнігі „Белавежа: Постаці. Творы. Героі” Алесь Аркуш спытаў, пра каго з „белавежцаў” яшчэ хацела б напісаць, адказала: „Пра Надзею Артымовіч”. Не ведала нават, што рыхтуецца яе кніга. І што гэтая кніга знойдзе мяне...

# Кніга без дэфектаў

*у сваіх кароткіх вершах я нічога не гавару*
*я ніколі нічога не сказала нікому*
*я нямая*

Калі б я не ведаў Надзеі Артымовіч, падумаў бы, што гэта аўтакрэацыя, гульня з чытачом, падміргванне яму. Бо хто як хто, але яна ведае цану слова і не разменьвае яго на дробную манету, не раскідваецца ім направа і налева. Я разумею гэтую дэкларацыю паэтэсы як тое, што яна нікога да нічога не пераконвае, нікому не ўбівае ў галаву адзінай праўды. Таму і не ўжывае палымяных заклікаў, вытанчаных тэрмінаў, абстрактных паняццяў.

*а я*
*пішу такія малыя словы*

Ёй, аднак, дастаткова аднаго малога слова, такога малога як сляза, каб змясціць у ім не толькі свой родны горад, але і ўвесь свет. Чым менш слоў — тым яны больш важкія. А часам зусім непатрэбныя. „Маўчанне — ці ж не самае таемнае і характэрнае для сакрум і прафанум ейнага лёсу?” — задаецца пытаннем Яўген Вапа, рэдактар навейшага зборніка Надзеі Артымовіч „Краявід з невідочнай памылкай”[1]. Паэтэса не таму маўчыць, што не мае чаго сказаць. Наадварот. Яна занадта добра ведае, якія паслядоўнасці нясуць выпушчаныя ў свет словы:

*над антыкварыятамі выказаных слоў*
*плывуць бронзавыя хмары*
*час продажу надзеі ўжо мінуў*
*у бяспальцых руках самотная іржа*
*сляды без слядоў*

Гэтыя словы так прачытаў другі выдатны майстра кароткай формы Алесь Разанаў: „Выказаныя словы не знікаюць, а збіраюцца, згрувашчваюцца і робяцца здабыткам антыкварыятаў, якія ў кожнага свае. Нават хмары, уплываючы ў кантэкст *выказаных слоў*, набываюць важкасць антыкварнага матэрыялу — бронзы, а *самотная іржа*, якая паволі з'ядае сляды колішняга жыцця, уяўляе цяпер квінтэсенцыю гэтага жыцця”[2]. Невыпадкова прыводжу тут гэтае двухгалоссе, бо па-мойму яно паказвае, як паэзія Надзеі Арымовіч расцвітае, набывае новае жыццё ў дыскурсе, у час сустрэчы з інтэлігентным чытачом, які можа быць для яе партнёрам. Так было дваццаць пяць гадоў таму, калі сустрэліся дзве братнія душы: Надзея Артымовіч і Алесь Разанаў. Так сталася і летась, калі перачытваць і спольшчваць яе вершы ўзяўся Марцін Рэмбач. У выніку атрымалася не проста кніга паэзіі з перакладамі, а паэтычны дыялог дзвюх творчых асоб, якія не толькі разумеюць адна адну, але і могуць узаемна дапаўняцца, абагачацца.

Тое, што перакладчык не абмяжоўвае сябе адно заменай беларускіх слоў польскімі, а ўстаўляе ў іх сваё разуменне, сваё прачытанне паэзіі Надзеі Артымовіч, паказвае ўжо пераасэнсаванне рэдактарскага ўводнага тэксту „Ружа на ўзбочыне” на „Róża na urwisku”. Праўда, што прыгожа? І, па-мойму, сэнс загалоўка не скажоны, а ўзмоцнены. І адэкватны да зместу кнігі. Таксама інтэрпрэтацыя загалоўнага верша: — *гэты краявід з невідочны дэфектам / ёсць твой* прымушае чытача спыніцца, учытаццa, задумацца: — *a krajobraz z wadą ukrytą / to ty*.

Як перліны зіхацяць такія радкі: *do Warszawy / pędziło się w nagim obłędzie (ляцелася ў голай непрытомнасці), i zniknie mój dyskretny ślad (мой ціхі след), dojrzeć do Pierwszego słowa modlitwy (дайсці да першага слова малітвы)*. Часам здзіўляюць, як: *sen skrzydlaty i lekki / w błękitnym żyrandolu (у блакітным люстры)*. Чамусьці я заўсёды бачыў гэты „крылаты сон” як адбітак у люстры, але чаму ён не можа гойдацца на жырандолі?



Марцін Рэмбач не першы, хто ўзяўся за пераклады Надзеі Артымовіч. Спачатку я быў здзіўлены, што ўзяўся ён за апрацоўку не толькі новых вершаў, але і тых, якія перакладаліся, пры чым некаторыя з іх па некалькі разоў. Добрую паэзію, аднак, варта перачытваць бясконца. Хай будуць доказам гэтаму два прыклады перакладу наступных радкоў:

*берагамі неспакою ўваходжу ў бязвокі гушчар*
*на небе расплываецца пах азёрнай пасцелі*
*поўнач кідае харaство на цяжкую расу*

Так зрабіў гэта Ежы Літвінюк:
*brzegami niepokoju wchodzę w ślepy gąszcz*
*na niebie sączy się zapach jeziornej pościeli*
*północ rzuca urok na dojrzałą rosę*[3]

А так Марцін Рэмбач:
*krawędziami niepokoju wstępuję w ślepą gęstwinę*
*po niebie rozpływa się woń jeziornej pościeli*
*północ rzuca piękno na ołowianą rosę*

„Ołowiana rosa” — адна з тых перлінаў, якія зззяюць у гэтай кніжцы. Новыя перакладчыкі напэўна яшчэ не раз здзіўляць нас новымі варыянтамі. Тым не менш хачу даць пад развагу і маю колішнюю інтэрпрэтацыю (пераклад друкаваўся ў беларускім нумары часопіса *Kartki*) хрэстаматыйнага верша: *ікона / лістападаўскі снег / блакітны ранак.* Заканчваецца ён радком: *Бельск — ікона маліта сон жыццё.* Рэмбач тлумачыць па-божаму: *Bielsk — ikona modlitwa sen życie.* А я дапусціў перастаноўку аднаго слова: *Bielsk — modlitwa ikona życie sen* і дзякуючы гэтаму, здаецца, атрымаўся бліжэйшы арыгіналу рытм. Але гэта даказвае толькі тое, што варта і трэба вяртацца да добрай паэзіі і перачытваць яе нанова. Нават, здавалася б, знаёмыя бельскія краявіды „пад шэрым небам” і з „шэрым брукам” кожны раз пададуцца іншымі.

Мяне, праўда, здзівіў яўны паланізм у апошнім вершы зборніка: *забыты, стары музык.* Чаму не беларускі *музыка?* Мо таму, што такі Бельск — польска-беларускі? Такі як гэтая кніга.

Узяцца за яе заахвочвае ўжо вонкавы выгляд. Аўтарам графічнага праекта з'яўляецца Юрка Асеннік. Здымкі ў кнізе Паўла Грэся. Гэта тыя самыя людзі, якія рыхтавалі да друку кнігу паэзіі Андрэя Сцепанюка „Распісаны квадрат”. Маю надзею, што гэтая паэтычная серыя Праграмнай рады „Нівы” будзе папаўняцца новымі кнігамі. Так добрымі па змесце, як і прыгожымі сваёй знешнасцю.

**Мікола ВАЎРАНЮК**

1 Надзея Артымовіч, *Краявід з невідочнай памылкай*, Беласток 2018.
2 Надзея Артымовіч, Алесь Разанаў, *Дзверы*, Беласток 1994.
3 Nadzieja Artymowicz, *Łagodny czas*, Lublin 1988.




**ВЕЧАР З ПРАВАСЛАЎНАЙ КНІГАЙ**

Прысвячаецца памяці:
*а. Канстанціна Байко (у 110-годдзе з дня нараджэння)*
*і а. Грыгорыя Сасны (у 80-ю гадавіну з дня нараджэння)*

11 красавіка 2019 г.
гадз. 17.00

**ІІ Агульнаадукацыйны ліцэй у Бельску Падляшскім, вул. Каперніка 4**

Праграма:

**Ірэна Матус** (Універсітэт у Беластоку): Становішча вуніяцкай Царквы на Падляшшы напярэдадні аб'яднання з Праваслаўнай Царквою (даклад з нагоды 180-годдзя аб'яднаўчага акту)
**Лідзія Кулажанка** (Праваслаўнае брацтва ў гонар трох віленскіх мучанікаў, Мінск): Айцец Плакід Янкоўскі і яго «Записки сельского священника». Прэзентацыя, выдадзеных на Беларусі новых кніг, прысвечаных уз'яднанню вуніятаў з Праваслаўнай Царквою
**Марк Яйміюк** (Выдавецтва Братчык, Гайнаўка): Прэзентацыя Сінаксарыёну (Пралогу на месяц май у перакладзе на польскую мову і кнігі: «Тлумачэнне да Евангелля паводле Ап. Матфея»
**Канстанцін Антановіч** (Праваслаўнае брацтва ў гонар трох віленскіх мучанікаў, Мінск): Фёдар Палачанін і яго новая кніга «Святло сярод ночы. Асновы праваслаўнай веры»
**Дарафей Фіонік** (Музей малой бацькаўшчыны ў Студзіводах): Праваслаўе, беларускасць і рэгіянальнасць – арыенціры навуковай, асветнай і грамадскай дзейнасці а. Грыгорыя Сасны
**Іван Міневіч** (Катлы): Кніга «Котлы на Літоўскім Гостінцы»
**Ева Асташовіч** (Беларускі ліцэй у Бельску Падляшскім): Айцец Канстанцін Байко і роля беларускага ліцэя ў Бельску для зберажэння памяці пра святара
**«Айцец Канстанцін Байко»** – спектакль у выкананні маладых акцёраў Тэатру "Чрава" з Беларускага музея; рэжысёр **Іаанна Троц**

Арганізатары:
Аб'яднанне Музей малой бацькаўшчыны ў Студзіводах
ІІ Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ім. Б. Тарашкевіча ў Бельску Падляшскім
Беларускае праваслаўнае брацтва ў гонар трох віленскіх мучанікаў у Мінску

1 ☞ працяг

■ Святкаванні ў Бельскім белліцэі

■ Госці падарылі Гайнаўскаму белліцэю перадрукі мінулагодняга ніўскага календара

сённяшняй Рэспублікі Беларусь афіцыйна не прызнаюць БНР, не арганізуюць святкавання ўгодкаў БНР, але ўжо дазваляюць на такое святкаванне, што з'яўляецца вялікай зменай у маім жыцці і жыцці вашых настаўнікаў. Святкаванні ўгодкаў БНР адбываюцца па ўсім свеце, між іншым, у Варшаве, Вільні, Празе, Нью-Йорку, Таронта, Мельбурне, — сказаў прафесар Алег Латышонак, які сваё выступленне закончыў воклічам «Жыве Беларусь», на што вучні адказалі такімі ж словамі.

Журналіст Яраслаў Іванюк папрасіў белліцэістаў назваць мясцовасці з-пад Гайнаўкі, якія ў сваім дакладзе пералічыў прафесар Алег Латышонак, што і зрабілі вучні. Яраслаў Іванюк і прафесар Алег Латышонак падарылі Гайнаўскаму белліцэю перадрукі мінулагодняга ніўскага календара, прысвечанага сотай гадавіне Беларускай Народнай Рэспублікі.

— Сённяшняя прапанова святкавання нам падабаецца. Мы многа даведаліся з даклада прафесара Алега Латышонка, асабліва аб героях, якія змагаліся за незалежнасць Беларусі, у тым ліку з Гайнаўшчыны. Гэта наша гісторыя і нам важна ведаць аб нашым мінулым, — гаварылі белгімназістка Малгажата Галёнка і яе школьныя сябры.

— Цікава было паслухаць як прафесар Алег Латышонак распавядаў аб беларускай школе і актыўнасці жыхароў маёй роднай вёскі Грабаўца, — заявіла віцэ-дырэктар белліцэя Ніна Лукасік.

Школьны калектыў «Знічка» праспяваў патрыятычныя беларускія песні пад акампанемент Яцка Дружбы на баяне. Вучням асабліва запамяталася патрыятычная песня «Сцяг», падчас выканання якой Андрэй Бабулевіч махаў бел-чырвона-белым сцягам над галовамі членаў «Знічкі». Члены калектыву Веранiка Пташынская і Андрэй Бабулевіч, які акампанаваў на гітары, займальна праспявалі ў дуэце патрыятычны твор «Ліцвіны».

— Святкаванне Дня Незалежнасці і даклад прафесара Алега Латышонка важныя ў працэсе фармавання беларускай нацыянальнай свядомасці, — сказаў дырэктар Гайнаўскага белліцэя і белгімназіі Ігар Лукашук, які разам з вучнямі абдарыў беластоцкіх гасцей кветкамі.

❖ Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**

---

Шэсцьдзесят беларускамоўных гітоў сучаснасці

# http://letapis.by

Паўтара года таму, у снежні 2017 года „Ніва" пісала пра цікавы сайт, які з'явіўся ў інтэрнэце і храналагічна распавядаў пра гісторыю беларусаў. Гэты сайт дагэтуль знаходзіцца па адрасе **http://map.letapis.by** і мае назву „Мапа станаўлення Беларусі". Насамрэч з'яўляецца ён часткай вялікага інтэрнэт-праекта, які распавядае не толькі пра гісторыю, але і сучаснасць беларусаў.

Партал **http://letapis.by**, згодна пададзенай там інфармацыі, з'яўляецца зборнікам праектаў, прысвечаных Беларусі і беларускай культуры, аўтар якіх Аляксей Чаранкевіч. Вышэйзгаданая „Мапа станаўлення Беларусі" ідзе другім праектам, а першым — „Шэсцьдзясят беларускамоўных гітоў сучаснасці".

„Да свайго 15-гадовага юбілею галоўны музычны партал краіны TuzinFM разам з Letapis.by склаў рэйтынг песень, без якіх немагчыма ўявіць незалежную беларускую музыку. У яго ўвайшлі 40 самых важных беларускамоўных песень з гіт-параду «Тузіна» (2003—2018) і яшчэ 20 гітоў за папярэднія 15 гадоў (1988—2003)", — распавядаецца ў дадзенай частцы сайта, якая была зроблена ў 2018 годзе.

Цікава, што да кожнага з 60 трэкаў напісаная анатацыя і гісторыя ягонага стварэння, падабраныя вывы, відэа і спасылкі на рэсурсы, дзе можна болей даведацца пра выканаўцу, паслухаць і набыць ягоныя трэкі. „У спіс увайшлі тыя песні, якія перамагалі на «Тузіне Гітоў» і называліся найлепшымі песнямі сезона цягам гэтых 15 гадоў існавання партала, а таксама 20 гітоў за папярэднія 15 гадоў, без якіх немагчыма ўявіць беларускую музыку", — сцвярджаецца ў прэс-рэлізе, дзе таксама адзначаецца, што спіс склалі стваральнік „Летапісу" Чаранкевіч і кіраўнік TuzinFM Сяргей Будкін.

„Спачатку мы хацелі зрабіць спіс з 15 трэкаў, потым пашырылі яго да 20, а па выніку ён разросся да 60 і ў ім далёка не ўсё, што хацелася ўключыць. У яго ўвайшлі пераважна рок-гіты нашых музыкаў. Поп-выканаўцы, барды, металісты, фольк-спевакі ды музыкі іншых кірункаў, безумоўна, вартыя асобных рэйтынгаў", — зазначае Аляксей Чаранкевіч.

«З аднаго боку гэта падсумаванне для нас саміх — у рэйтынг увайшлі песні, якія паўплывалі на нас асабіста і на развіццё айчыннай сцэны ў цэлым. На нашу думку, гэты рэйтынг таксама мае стаць кропкай уваходу ў беларускую музыку для тых, хто толькі пачынае ёй цікавіцца», — заўважае Сяргей Будкін.

У трэцяй частцы вялікага сайта — інтэрнэт-праект „Плакат «Гісторыя Беларусі»", што месціцца па адрасе http://poster.letapis.by. Там пазначаюцца даты, якія, на думку яго стваральнікаў, найбольш важныя ў беларускай гісторыі. Першая дата — узгадванне Полацка ў 862 годзе, а апошняя — прысуджэнне Нобелеўскай прэміі па літаратуры Святлане Алексіевіч.

„Плакат «Гісторыя Беларусі» — гэта афлайн-працяг праекта «Мапа станаўлення Беларусі». На адзінай лініі часу паказаны беларускія гарады, кіраўнікі і самыя істотныя падзеі дзяржаў, якія існавалі на тэрыторыі сучаснай Беларусі", — распавядаецца ў прэс-рэлізе, на які можна трапіць, клікнуўшы на адпаведную спасылку ўнізе цэлага выяўлення. Ідэя і дызайн гэтай часткі агульнага сайта таксама належаць Аляксею Чаранкевічу.

❖ **Аляксандр ЯКІМЮК**

---

Дата з календара

# 115 гадоў з дня нараджэння
# Уладзіміра Півávарава

Беларускі навуковец, народны камісар асветы БССР, вязень ГУЛАГа, адзін з ідэалагічных кіраўнікоў паўстання ў савецкім канцлагеры „Лесарэйд" Уладзімір Піваварaў нарадзіўся ў вёсцы Сямёнаўка (цяперашні Рагачоўскі раён Гомельскай вобласці) 4 красавіка 1904 г.

У 1924 г. скончыў Рагачоўскі педагагічны тэхнікум, працаваў настаўнікам, пазней дырэктарам сямігодкі ў Мазырскім раёне. У 1930 г. скончыў фізіка-матэматычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. У 1930-1932 гг. — аспірант Акадэміі навук БССР. У 1936 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю па геафізіцы.

Уладзімір Піваварaў працаваў старшым навуковым супрацоўнікам фізіка-тэхнічнага Інстытута АН БССР. З 21 кастрычніка 1937 г. прызначаны наркамам асветы БССР. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей.

У разгар сталінскіх рэпрэсій 2 ліпеня 1938 г. яго арыштавалі. 28 студзеня 1940 года выключылі з кампартыі. Рашэннем Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР ад 29 траўня 1940 г. засуджаны да 15 гадоў зняволення ў савецкім канцлагеры. Зняволенне адбываў у Комі АССР. Менавіта Піваварaў стаў адным з арганізатараў Усць-Усінскага паўстання зняволеных, якое лічыцца першым такім паўстаннем у гісторыі савецкага ГУЛАГа.

24 студзеня 1942 г., заманіўшы бальшыню аховы для мыцця ў лазню, вязні забралі зброю ў рэшты аховы, пасля чаго зачынілі ахоўнікаў у складзе для гароднiны, адкрылі лагерную зону і абвясцілі пра паўстанне. Частка вызваленых (59 чалавек) разбеглася. Іншыя (82 чалавекі) пад выглядам вучэннеў атрада аховы рушылі да Усць-Усы. У паўстанцаў было толькі 12 вінтовак і 4 наганы. Бaі ў розных месцах ішлі да поўначы, паўстанцы страцілі забітымі 9 чалавек, самі знішчылі 14 і паранілі 11, а таксама захапілі яшчэ крыху зброі і вызвалілі 38 вязняў, з якіх 12 далучыліся да паўстаўшых лагернікаў. У той жа час 40 няўзброеных паўстанцаў было затрымана, яшчэ 21 чалавек пазней здаліся самі ў раённы аддзел НКВД.

У ноч на 25 студзеня 1942 г. атрад паўстанцаў, у якім быў 41 чалавек, захапіў збройны абоз і харчаванне. Раніцай 28 студзеня завязаўся бой у лесе на адлегласці каля 105 км ад сяла Усць-Уса на рэчцы Лыжа. У выніку было забіта 16 паўстанцаў, вайскоўцы таксама страцілі 16 чалавек, яшчэ 9 былі сур'ёзна паранены, многія абмарозіліся. Перaслед паўстанцкага атрада прадоўжыўся іншымі падраздзяленнямі канцлагернай аховы. 29 студзеня паўстанцы, якіх заставалася 26 чалавек, пастанавілі разбіцца на групы, каб паспрабаваць уцячы ў Вяліказемельскую тундру да ненцаў-аленяводаў.

Наступныя дні працягваўся перaслед уцекачоў з канцлагера. У баі каля вярхоўяў ракі Малы Церахавей група на чале з Маркам Рэцюніным (11 чалавек) была абкружана. Пасля амаль сутачнага бою і страты боезапасаў 6 чалавек з ліку паўстанцаў застрэліліся, яшчэ двух узялі ў палон.

Усяго за час паўстання загінула 42 яго ўдзельнікі, схоплена жывымі 6. Страты частак НКВД і ВОХР склалі 33 чалавекі забітымі, 20 паранеными і 52 абмаражанымі. Ажно 50 чалавек было абвінавачана карнымі органамі і засуджана да смяротнага пакарання, яшчэ 18 чалавек засудзілі да розных тэрмінаў зняволення.

26 паўстанцаў, у ліку якіх і Уладзімір Піваварaў, расстралялі 30 сакавіка 1942 г. Іншыя крыніцы падаюць, што Піваварaў памёр яшчэ 28 жніўня 1941 г., але гэта малаверагодна.

Месца пахавання Уладзіміра Піваварава невядомае. Рэабілітаваны ён быў 25 снежня 1954 г.

❖ **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Чаромхаўская «Прыгранічная»

Чаромха ў сямідзясятых гадах мінулага стагоддзя была адным з буйных чыгуначных цэнтраў ва ўсходняй частцы Беластоцкага ваяводства. Тут крыжаваліся чыгуначныя лініі з усходу на захад ды з поўначы на поўдзень. Шматлюдны калектыў паасобных чаромхаўскіх чыгуначных устаноў патрабаваў харчавання. Кіраўніцтва выдавала сваім працаўнікам талоны на гарачае харчаванне. Адзінай гандлёвай установай, якая займалася гэтай справай, быў вакзальны буфет, які змяшчаўся ў невялічкім памяшканні ў бараку. І з гэтым была праблема, паколькі буфетам карысталіся не толькі чыгуначнікі, але і пасажыры (у супрацьлеглым памяшканні змяшчалася білетная каса з пачакальняю) ды жыхары пасёлка. Маленькае памяшканне буфета змяшчала ўсяго дзесяць-дванаццаць столікаў. Найбольш пакрыўджанымі былі падарожныя, якія ў час перасадкі ў Чаромсе хацелі купіць бутэрброд ці з'есці гарачы абед. За мясцовымі пакупнікамі нельга было прыступіць да прылаўка, каб зрабіць заказ. Па нейкім часе, калі станцыя пабудавала сацыяльны прытулак для манеўровых, дык рабочыя рухава-гандлёвай службы там спажывалі цёплае харчаванне. У час выхадных дзён, калі кухня не працавала, тады выдавалі «сухія пайкі» з мясным укладам і хлебам для бутэрбродаў.

Чыгуначныя прадпрыемствы намагаліся чым хутчэй вырашаць праблему харчавання для рабочых. Што і раз на партыйных і самаўрадавых сходах гучалі заявы аб неабходнасці пабудовы рэстарана. Праўленне ГС у Кляшчэлях станоўча паставілася да справы і ў 1975 годзе ў цэнтры пасёлка ўзнік прыгожы аб'ект чаромхаўскай гастраноміі. Рэстаран назвалі «Прыгранічнай». Дзве прасторныя залы змяшчалі дзевяноста шэсць месцаў, кафейная — сорак. Тут можна было выпіць каву, спакойна паабедаць (у безалкагольнай зале па просьбе кліента), а нават пакарыстацца музычным аўтаматам за адзіныя два злоты. Гэтыя козыры грамадскай пашаны можна было б прыпісаць кіраўніцтву рэстарана, калі б не маленькае «але». Абслуга афіцыянтак — адзін Садом ды Гамора. Нявітлівасць, грубасць у адносінах да кліентаў, непарадкі на століках стваралі непрыемнае ўражанне. Але аб гэтым у чарговым допісе.

(заканчэнне будзе)

❖Уладзімір СІДАРУК

# Лука на выстаўцы

5 красавіка гэтага года а гадзіне 17-й у галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы Гайнаўскага павета адкрыюць выстаўку здымкаў колішняй вялікай драўлянай вёскі Лука Нараўчанскай гміны, распаложанай над ракою Нарвай, аўтарства жыхара гэтай вёскі фатографа Якуба Смольскага.

Аўтар не жыве, але яго некаторыя працы захаваліся да сённяшніх дзён. На памятных чорна-белых фатаграфіях можна паглядзець лучанскія хаты з саламянымі стрэхамі і панадворкі ля іх, даўніх жыхароў затопленай вёскі (цяпер на яе месцы вялікае Семяноўскае вадасховішча) у розным узросце ды ў розных жыццёвых абставінах: падчас вясельнага пачастунку, на паховінах або звычайна ў святочны дзень прысеўшых на вясковай лавачцы.

Арганізатары выстаўкі запрашаюць у першую красавіцкую пятніцу пад вечар у нараўчанскую галерэю. **(яц)**

# Аб чаромхаўскай культуры (4)

Жыхары Чаромхаўскай гміны не адзінай музыкай і песнямі жылі. Арганізавалася шмат культурных мерапрыемстваў на спартыўнай ніве ў рамках адпачынку. Да такіх можна прылічыць юбілейную алімпіяду, прысвечаную 70-годдзю чыгуначнага вузла, якая праходзіла 4 верасня 1977 года. З гэтай нагоды спартсмены з пяці самых вялікіх прадпрыемстваў Чаромхі разыгралі спаборніцтва за юбілейны кубак. У веласіпеднай гонцы найлепшым быў Багдан Ваўжыняк, а ў бегу па перасечанай мясцовасці першае месца заваяваў Януш Казбярук перад Вішэнкам і Колдкам. Найбольш эмоцый прынесла балельшчыкам перацягванне каната. Удзельнічалі ў гэтым тры каманды. Самымі моцнымі аказалася каманда з вагоннага дэпо. Без цяжкасці перацягнулі каманду паравознага дэпо і станцыі. Апрача таго быў арганізаваны веласіпедны слалам, спаборніцтва ў валейболе, штуршок ядром ды іншае. Найбольш пунктаў атрымала каманда вагоннага дэпо (422), другое месца — паравознае дэпо (393 пкт.), а трэцяе — станцыя (233 пкт.). Усе ўдзельнікі, якія занялі тры першыя месцы — калектыўныя і індывідуальныя, атрымалі рэчавыя ўзнагароды. Кубак 70-годдзя вузла атрымала пераможная каманда вагоннага дэпо. Кіраўніку вагоннага дэпо Зыгмунту Кордысу ўручыў яго гмінны сакратар ПАРП Станіслаў Фалькоўскі. Спаборніцтвы праходзілі ў святочным настроі пад гукі мясцовага духавога аркестра чыгуначнікаў. Гарэў вечны агонь — сімвал спартыўных спаборніцтваў.

19 жніўня 1979 года на пляцоўцы побач «Калеяжа» праходзіла III алімпіяда чыгуначнікаў. Удзельнічалі каманды паравознага і вагоннага дэпо, станцыі і насычальні. Па правілах кожнае прадпрыемства павінна вызначыць па тры асобы ў кожную дысцыпліну спорту. А было іх дзесяць. Самым цікавым было перацягванне каната, якое ў гледачоў выклікала многа смеху, бо саперніцалі ў гэтай дысцыпліне адны начальнікі чыгуначных прадпрыемстваў. Пераможнай аказалася каманда з паравознага дэпо. Прайграла адно ў веласіпеднай гонцы і ў кіданні кружка. За заваяванне першага месца кубак начальніку паравознага дэпо Юзэфу Міхальскаму ўручыў сакратар вузлавога камітэта ПАРП Лявон Ляскоўскі.

❖Уладзімір СІДАРУК

# Адгаданка Адгаданка Адгаданка

**1.** пара года калі сонца праходзіць праз сузор'і Барана, Быка і Блізнят, **2.** нюхаўка, **3.** вакальны твор, **4.** клекатун, **5.** пякучая травяністая расліна, у якой... піва, **6.** грошы ў... капіталізме, **7.** „егіпецкая" опера Вердзі, **8.** высушаная пупышка гваздзіковага дрэва, якая выкарыстоўваецца як прыправа.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка. **(ш)**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | | | | | |
| | | 2 | | | | | | |
| | | | 3 | | | 4 | | 5 |
| | | | | 6 | 7 | | | |
| 8 | | | | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 10 нумара**

Сваяк, Кастылія, дынаміт, Марока, ноч, шыла, спякота, Аляска, даярка, Нюрнберг, Эш, печ.

Рашэнне: **Каля вады намочышся, каля агню апячэшся**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем А**нне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 07.04 — 13.04

**(22.03. — 20.04.)** 8-12.04. не вырашай важнага і не пачынай мерапрыемстваў. Адкрыюцца новыя магчымасці. З 12 (да 16.04.) ігра у латарэю, на біржы. Жыццё Бараноў з апошніх дзён знака набярэ румянцаў. 11-13.04. будзеш патрабаваць канкрэтнай дапамогі, людзі, якія сябры толькі на словах, знікнуць. На працы — твае пяць хвілін, можаш атрымаць павышэнне або прэмію. За што возьмешся — будзе золата. Хто пазмагаецца — выйграе (асабліва 11-15.04.).

**(21.04. — 21.05.)** 8-12.04. вельмі рамантычная атмасфера. Але самотныя Ракі хутчэй будуць лунаць у марах і ўспамінах, чым знаёміцца і ўлюбляцца. 7-8.04. — добры час. Дома 11-13.04. будзеш мець уражанне, што пэўныя справы ўцякаюць табе з рук, прытым 11-15.04. магчымыя неспадзяваныя аварыі. Не дай сабе замыліць вачэй 11-13.04. Не рабі ніякіх рэвалюцый на працы.

**(22.05. — 22.06.)** 7-8.04. цярплівасць і дакладнасць аплацяцца табе. Адзінокія Блізняты трохі праспяць гэты час. На працы 11-13.04. вылезуць усе недаробкі і слабыя пункты тваіх планаў. Можа казацца, што ты прыняў лішне аптымістычныя планы, і прыбытак будзе горшы, і трэба будзе планаваць нанова. Пазмагайся са стрэсам, стаў на фізічную актыўнасць. Паспрабуй кінуць курэнне.

**(23.06. — 23.07.)** 8-10.04. можа рэалізавацца твая мара аб падарожжы. 10-14.04. можаш старацца за крэдыт на доўгатэрміновую інвестыцыю. 11-15.04. не ўключайся ў бессэнсоўныя спрэчкі і не бярыся за благія рашэнні. Але будзеш крэатыўны, кемлівы і хуткі. 10-14.04. варта прааналізаваць адносіны з людзьмі, якіх ведаеш ад гадоў. Пільнуйся ад балагану дома, бо можа прапасці важны дакумент. 8-12.04. пільнуйся са здароўем — могуць аднавіцца даўнія кантузіі, не хадзі ў ботах з высокімі абцасамі і не рызыкуй у спорце.

**(24.07. — 23.08.)** Многа энергіі і запалу. 8-12.04. можаш выпадкова зашкодзіць сабе ці іншым. Не дай сябе ўключыць у спрэчку з 11.04. З 12.04. прабудзіцца твая амбіцыя, але найважнейшыя заданні заплануй на другую палову месяца. 6-9.04. Ільвы народжаныя ў II дэкадзе могуць ставіць пытанне аб сэнс таго, што рабілі дагэтуль. Павышай свае кваліфікацыі асабліва 11-14.04.

**(24.08. — 23.09.)** 8-10.04. пераканаеш да сябе людзей, якія здзейсняць твае просьбы. 11-13.04. не парушай прынцыпаў, нормаў і правіл. Выдатны час для кахання. 8-12.04. будзеш ведаць, як падабацца! 10-14.04., нават калі вы былі на мяжы расстання, даруеце адзін аднаму. Праблемы, якія вас раз'ядноўвалі, 11-13.04. яшчэ вас больш з'яднаюць і пацвердзяць, што можаце на сябе разлічваць. На працы сілы і трываласці зоркі дададуць табе 9-11.04. Але за курсы, мабыць, заплаціш з уласнай кішэні. Нервы разгрузі на спортпляцоўцы.

**(24.09. — 23.10.)** 8-12.04. трэба будзе мерацца з сямейнымі праблемамі. Самотныя Шалі не будуць ведаць, чаго хочуць. Будуць уваходзіць на профіль экса, разважаць аб мінулым. Схочацца быць у цэнтры зацікаўлення асабліва з 12.04. (да — 16.04.). на вяселлі прыцьміш маладых! Калі лічыш, што гэта трэба, падпішы дамову з банкам 10-14.04. Пахадзі больш на шпацыры.

**(24.10. — 22.11.)** 9-11.04. добрыя весткі. Да 10.04. убачыш сапраўдны твар кагосьці з блізкіх. Любоўныя ўдачы. 10-14.04. можаш сустрэць сур'ёзнага кандыдата да твайго сэрца. Добры час на рамонты і парадкі дома. 11-13.04. атрымаеш падарунак, але за штосьці. З 11.04. пераканаешся, хто рабіў інтрыгі на працы супраць цябе, але не перaймайся. Пастаянна крыніца ўтрымання. Маеш цяпер шчасце да грошай, свае ашчаднасці можаш укласці ў зямлю ці нерухомасць, асабліва 10-14.04. Захавай раўнавагу паміж працай і адпачынкам.

**(23.11. — 22.12.)** 10-14.04. зможаш вярнуць доўг або нявыплачаныя грошы. Але 11-13.04. нейкая драбяза можа мець сур'ёзныя наступствы. Творчая вена. Усе акалічнасці павінны табе спрыяць. 7-8.04. варта ўпарадкаваць пачуццёвыя справы, высветліць недамоўленае. З 11.04. з шафы могуць вылезці нейкія «трупы». На працы шырокае поле паказацца будзеш мець з 12.04. (да 16.04.), найбольш карысці з калектыўнай працы.

**(23.12. — 20.01.)** 8-10.04. шчаслівыя здарэнні. 7-8.04. трымайся блізка дасведчаных супрацоўнікаў. 9-11.04. усё, што было дагэтуль цяжкім, пойдзе прыпяваючы; на працы акажацца, што ты меў рацыю. 10-14.04. зоркі памогуць задбаць табе аб выгляд і купіць штосьці экстра ды танна. 8-12.04. лепш не разлічвай на іншых, бо могуць цябе падставіць. 8-12.04. не вер у салодкія словы. 11-15.04. магчымыя буры ў пары.

**(21.01. — 19.02.)** 8-12.04. кепскія дні пачынаць новыя справы, інвестыцыі, арганізаванае сустрэч. З 12.04. шэф гляне на цябе прыязным вокам. Хаця на працы руцінныя заданні. 10-14.04. вельмі ўдалыя пакупкі. І не перaймайся грашыма, бо паявяцца магчымасці большага заробку. Інтарэсы пойдуць паспяхова, магчымая прэмія.

**(20.02. — 21.03.)** 9-11.04. развязка турбуючай цябе загадкі. Выклічаш уражанне. Але сам звяртай увагу на тое, што прыгожы від і абяцанні гэта драбяза. 8-12.04. можаш закахацца з першага пагляду. 10-14.04. прыемны час на сустрэчы, размовы, успаміны. На працы цікавыя прапановы, але могуць кончыцца пшыкам 11-13.04.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# Арліцы з Навіцкавіч (2)




■ Культурныя прапановы ў Камянцы

Калі б нам дазволілі займацца фальклорам, мы столькі зрабілі б для нашай дзяржавы, — не хавае хвалявання спадарыня Галя Пяркоўская.

Моц і стыхія народных абрадаў, старых песень — лякарства для кволай, загубленай душы беларуса. У прыпушчанскіх Навіцкавічах не трэба нічога прыдумваць, прыхарошваць. Тут захапленне ад першабытнай прыроды, якая вякамі гартавала дух туземцаў. Тая годнасць і драпежнасць закладзена ў назоў іх калектыву. Ахрысцілі іх у сталіцы, а імя нашаптала іхняя песня «Орліца». Ды надта зраслася з іміджам карэнных, вясковых пявунняў, апранутых у касцюмы пушчанскіх прабабуль.

— Нашы касцюмы памятаюць яшчэ XIX стагоддзе, — спадарыні Вольга і Галіна прэзентуюць спадніцы, фартушкі, вышываныя кашулі. Кожны касцюм іншы, хоць у адной колернай і тэматычнай танальнасці. Людзі павымалі іх з пасажных куфраў, таму іх каштоўнасць, як аўтэнтычнага рукадзелля, не мае цаны.

— Мы баімося ўжо на іх дыхаць, — заяўляюць з трывогай, — бо гэта ў прынцыпе музейныя экспанаты. Іх трэба захаваць для нашых дзяцей, для нашчадкаў...

І тут чарговая праблема. Ужо колькі гадоў не могуць дапрасіцца ад чыноўнікаў новых касцюмаў. Адсылаюць з нічым, кажучь: няма грошай! А ім балюча скакаць па аграсядзібах у архаічных вышыванках. Яны ж не з жалеза, у рэшце рэшт зблекнуць, пратруцца, знішчэюць. Ну, хоць ты плач!

— А нам хацелася б апранаць іх толькі на вялікае свята, — дадаюць. — Вось паказаць іх у вашых Студзіводах або ў Берасці. Або калі прыедуць здымаць іх канцэрт для тэлебачання. Нядаўна званілі ім са сталіцы, прапанавалі запісаць тэледыск. Але ж адмовіліся. Не падыходзіў тэрмін, які назначылі на першы тыдзень Вялікага посту.

— Хто ў вёсцы схоча скакаць, калі пост і жалоба? Гэта ўсё ж дзіка!

* * *

Хоць, калі ідзе пра выжыванне вясковага дома культуры, ім неабходна скарыць кожную дзікасць і ментальныя перашкоды. Раней, калі была магчымасць падзарабіць на дыскатэках, сяк-так трымаліся. А зараз ужо аджылі танцы і дыскатэкі. Дом культуры падзарабляе на вяселлях, хрысцінах, сямейных гасцінах. Спадарыня Вольга Шэўчук успамінае цыганскае вяселле на трыста чалавек. З'ехаліся з Беларусі, Украіны ды ўсяго свету. То-бок, прыехаў цыганскі барон з Італіі, родны дзядзька вясельнай маці. А як разгуляліся, то і пасварыліся з-за нейкага непаразумення. Цыганы эмацыйны народ, хопіць адно слова і канфлікт гатовы. Ужо да дракі дайшло, павеяла вайной. Ну, палieцца кроў і разнясуць будынак! Патраты і сорам, не адрабіцца, не апраўдацца. Тады спадарыня Вольга рушыла ў сярэдзіну стыхіі з міратворчай місіяй.

— Не ведаю, як іх прывяла да раўнавагі, — успамінае з усмешкай спадарыня дырэктар, — але ж супакоіла, развяла трыста чалавек....

Не меншай сенсацыяй у Навіцкавічах сталі цыганскія хрысціны.

— *Што б віетэ побачылі*, — успамінаюць з нехаваным прызнаннем субяседніцы, — *тут стояв такі самаход, што шчэ і нэ бачылі. Усё сэло збіглося!*

Хрысціны наладзілі адразу для траіх дзяцей. Спецыяльна з гэтай нагоды заказалі з Мінска лімузін-хамер.

— Бо ў Берасці такога не было, — дадае спадарыня Вольга.



■ Вольга Шэўчук, аўтарка, Галіна Пяркоўская

І павезлі дзяцей хрысціць у Камянец. То кажуць, што за адны хрэсьбіны 9 тысяч долараў настаяцелю заплацілі. Цыганы, канешне, малайцы! Калі ў іх сямейнае мерапрыемства, апошні грош аддадуць на прэстыж і гасцей. Ім трэба, каб усе бачылі, гаварылі...

* * *

У час нашай бяседы ў Дом культуры завіталі цыганскія дзеці на музычныя рэпетыцыі.

Зараз яны складаюць больш за палову з агульнага ліку 72 вучняў у Навіцкавічах. Амаль усе яны даяздждаюць у школу з Чарнакоў.

— Яны, аднак, не паддаюцца ніякаму выхаванню, — адзначае спадарыня Вольга. — Закончаць дзевяць класаў ды *ны пысаты — ны чытаты!*

Раней зусім не хадзілі ў школу. Абівац школьныя парогі заставіў іх указ прэзідэнта аб паўсюдным школьным абавязку для ўсіх грамадзян. Інакш бацькі не атрымалі б грашовай дапамогі.

— Ну як яны вучацца? — распавядаюць спадарыні. — Іх прывязуць на аўтобусе, яны паядуць — тут іх дарам кормяць, сумку на плячо і пайшлі пяшком дамоў.

Пытаю, як удалося ім прыцягнуць дзяцей да музычнага гуртка.

— Спачатку гэта здавалася немагчымым, — кажа спадарыня Галя, — ніхто з імі не хоча працаваць. А я сказала: калі хочаце да нас хадзіць, то трэба за дзвярыма пакінуць усе брыдкія словы, разборкі і міжусобіцы. І ўсё! Трэба займацца справай. То яны аж не верылі і спыталі: *А што, вы будзэтэ до нас односітся добрэ, як до своіх?* А я кажу: у нас няма сваіх і чужых, для нас вы дзеці. Вось так прыцягнулі, звычайнай ласкай, звычайным словам.

Спадарыня Галя ўспамінае як аднойчы праводзіла дзядзьку ў Санкт-Пецярбург і на вакзале ў Камянцы брала квіток, А там можа 20-30 цыганоў выседжвае. І ўсе яны падарваліся на ногі і гукнулі: «ЗДРАСТВУЙЦЕ!»

— То ўсе пасажыры на мяне глядзелі і думалі, што я іхняя, — усміхаецца на ўспамін мастацкая кіраўніца «Орліцы».

* * *

Хоць у навіцкавіцкіх «арліц» усе дзеянні запраграмаваныя на прыбытак і выплату даніны дзяржаве, яны мараць пра новыя выклікі і прамоцыю мясцовых абрадаў.

— Нам марыцца ажыццявіць вясельны абрад, які называюць «заворыванням прыпечка», — пачынае спадарыня Галя. — Яго спраўлялі ў чацвер, пасля вяселля. Тады гурма кавалераў на конях ехала ў дом маладога, каб праверыць ці ў маладажонаў усё нармальна. Ідзе пра абавязак першай ночы. Не, гэтае слоўца зусім не на месцы. У нас не было чагосьці такога як абавязак першай ночы. Маладым, пакуль яны спазналі сябе, давалі яшчэ некалькі дзён. Каб яны крыху знюхаліся, асвоіліся з сабой, палюбілі адзін аднаго. Ды ў той чацвер ніхто нікога не праваряў! Хутчэй ідзе пра намёк аб важнасці сексуальнасці ў жыцці чалавека. А сам абрад такі вясёлы, каларытны, што не стрымаць ад рогату...

— І нідзе такога абраду больш няма! — дадае спадарыня Вольга.

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960
14